● выдаецца са жніўня 1917 г. БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● кошт 3000 рублёў

17 лютага 1998 г. аўторак, № 35 (23386)

# ЗВЯЗДА





## ЗДАРЭННІ

### У МАЗЫРЫ ПАСАЖЫРСКІ АЎТОБУС УРЭЗАЎСЯ Ў ЖЫЛЫ ДОМ

Мінулы чацвер стаў нешчаслівым для сарака пасажыраў рэйсавага аўтобуса. Буйная аварыя, якая адбылася ў Мазыры прыблізна каля дзевяці гадзін вечара, пашкодзіла «ЛАЗ-695», па папярэдніх ацэнках, на 70 працэнтаў. Пацярпелі, зразумела, і людзі.

Як паведаміў газеце «Звязда» аператыўны дзяжурны рэспубліканскага штаба грамадзянскай абароны Беларусі, аўтобус, у якім ехалі 40 пасажыраў, раптам занясло і ён урэзаўся ў жылы двухпавярховы дом па вуліцы Горкага. Як паказалі вынікі папярэдняй экспертызы, вадзіцель не справіўся з кіраваннем з-за няспраўнасці тармазоў у аўтобусе. Ёсць і пацярпелыя ў выніку аварыі. З дваццаці чалавек, якія пацярпелі, дзевяць змешчаны ў мясцовую бальніцу ў стане рознай ступені цяжкасці. Дарэчы, двое з іх з найбольш цяжкімі траўмамі змешчаны ў рэанімацыйнае аддзяленне. Што ж датычыцца жыхароў дома, то, на шчасце, ніхто з іх не пацярпеў.

**Ігар ГРЫШЫН.**

Аляксандр ЛУКАШЭНКА:

## «АЛІМПІЯДА Ў НАГАНА НАС МНОГАМУ НАВУЧЫЦЬ»

**Кіраўнік беларускай дзяржавы і адначасова прэзідэнт Нацыянальнага алімпійскага камітэта рэспублікі Аляксандр Лукашэнка, які знаходзіцца на Алімпіядзе ў Нагана, у гутарцы з беларускімі журналістамі заявіў, што зімовыя Гульні-98 стануць добрай школай далейшага развіцця спорту і алімпійскага руху ў Беларусі.**

У гэтай справе, на яго думку, істотную дапамогу могуць аказаць расійскія спецыялісты, з якімі ён мае намер сустрэцца і абмеркаваць перспектывы развіцця такіх відаў спорту, як фігурнае катанне, біятлон, хакей і іншыя. Для гэтага патрэбны сапраўдныя прафесіяналы, якія добра ведаюць методыку падрыхтоўкі спартсменаў. Неабходна таксама правільна выкарыстоўваць тых, хто пакідае вялікі спорт. «Іх вопыт і майстэрства, — падкрэсліў прэзідэнт, — гэта наша найвялікшае нацыянальнае багацце. І мы будзем удзячныя ім, калі яны вырасцяць падобных на сябе славутых спартсменаў. Гэта вельмі важная для нас праблема».

Паводле слоў Аляксандра Лукашэнкі, у рэспубліцы неабходна ствараць новыя школы па зімовых і летніх дысцыплінах, прывесці ў парадак дзеючыя цэнтры. Што датычыць выступлення нашых землякоў на Алімпіядзе, то яны, на думку Аляксандра Лукашэнкі, дастойна прадстаўляюць нашу краіну на такіх грандыёзных спаборніцтвах. І не толькі сваім прыгожым адзеннем, якое стваралі многія працоўныя калектывы, самааддачай у барацьбе, але і бадзёрым настроем, сваімі маральнымі валявымі якасцямі. І гэта таксама добры вопыт, набыты ў незвычайных умовах.

«Мы паглядзім тут многія спартыўныя аб'екты з тым, каб найбольш прымальныя для нас пабудаваць дома, — сказаў Аляксандр Рыгоравіч. — Вядома, не такія маштабныя і дарагія, якім з'яўляецца, напрыклад, канькабежны палац, але ўсё лепшае і дастойнае пастараемся прымяніць у сябе. Нацыю трэба ўзнімаць менавіта са здароўя, а здароўе — гэта спорт і фізкультура».

У нядзелю прэзідэнт пабываў на спаборніцтвах па фігурнаму катанню, дзе выступалі прадстаўнікі нашай рэспублікі па спартыўных танцах Таццяна Наўка і Мікалай Марозаў.

На 17 лютага запланавана сустрэча кіраўніка нашай дзяржавы з прэзідэнтамі і генеральнымі сакратарамі НАКаў краін СНД. На 19 лютага назначана яго сустрэча з журналістамі электронных сродкаў масавай інфармацыі Беларусі і Расіі, акрэдытаванымі на Гульнях у Нагана.

**Вячаслаў ДУТАЎ, БЕЛТА.**

## З'ЯВІЎСЯ НОВЫ СМЯРОТНЫ ВІРУС ГРЫПУ. СВЕТ НА ПАРОЗЕ ЧАРГОВАЙ ПАНДЭМІІ?

***Сусветная арганізацыя аховы здароўя і Расійскі федэральны цэнтр па грыпу прагназіруюць з'яўленне ў бліжэйшыя гады новага варыянта віруса грыпу, да якога ў людзей няма імунітэту. Наступствы жудасныя — пандэмія (распаўсюджванне захворвання на многія краіны і кантыненты) накшталт сумна вядомай «іспанкі» 1918—1920 гадоў. Новы вірус можа стаць прычынай смерці соцень тысяч і нават мільёнаў людзей.***

***Падобна на тое, што на гэты раз апасенні вучоных мужоў не засталіся толькі ў тэорыі. У Ганконгу ў хворых людзей быў выяўлены новы тып вірусу, які атрымаў назву «птушынага». Па каментарый «Звязда» звярнулася да галоўнага эпідэміёлага Міністэрства аховы здароўя Беларусі Анатоля Кажамякіна. Вось што ён расказаў.***

— Грып, як захворванне ўпершыню быў апісаны яшчэ ў 412 годзе да нашай эры Гіпакратам. Першае дакладнае апісанне пандэміі грыпападобнага захворвання сустракаецца ў 1580 годзе. Дакументальна апісана 31 пандэмія. У XX стагоддзі акрамя «іспанкі», якая была прычынай смерці 20 мільёнаў чалавек, былі яшчэ «азіяцкая» пандэмія 1957 года і «ганконгаўская» 1968 года. Апошняя пандэмія 1977 года атрымала назву «рускай», таму што пачалася на савецкім Далёкім Усходзе.

Грып і вострыя рэспіраторныя захворванні дагэтуль застаюцца некіруемымі інфекцыямі. За перыяд эпідэмій грыпу захворвае ад 5 да 15 працэнтаў насельніцтва. Пры гэтым каля паловы захварэўшых — дзеці. Ускладненні, якія выклікае грып (пнеўманія, трахеабранхіты, атыты, менінгіты), могуць скончыцца лятальным зыходам. Напрыклад, у ЗША штогод рэгіструецца ад 10 да 40 тысяч смерцяў, прычынай якіх з'яўляюцца ўскладненні грыпу. У суседняй Расіі штогод на грып і ВРЗ хварэюць ад 27,3 да 41,2 мільёна чалавек. Ад грыпу паміраюць 500, а ад ВРЗ — да 2 тысяч чалавек.

У Беларусі ў апошнія 10 гадоў эпідэміі грыпу адбываюцца штогод. На грып перахварэлі ад 250 да 833 тысяч чалавек, на ВРЗ — ад 2,1 да 2,4 мільёна чалавек. Паводле даных афіцыйнай статыстыкі, толькі за апошнія 3 гады ад грыпу памерлі 37 чалавек.


**(Заканчэнне на 2-й стар.)**


**УВАГА!**
**«Звязда» праводзіць «прамую лінію» з міністрам аховы здароўя Рэспублікі Беларусь Ігарам Барысавічам ЗЕЛЯНКЕВІЧАМ.**



Тэлефануйце 19 лютага з 11 да 12 гадзін па тэлефонах рэдакцыі: **(8-017) 232-38-21; 232-38-92.**

Папярэдне чакаем вашых званкоў па тэлефоне **(8-017) 268-28-14** і пісьмовых допісаў на адрас рэдакцыі «Звязды».





**Вам адкажа беларускі ваенны пракурор генерал-маёр юстыцыі Вячаслаў Віктаравіч ЛЮБАВІЦКІ**



**Паважаныя чытачы, вы зможаце пагутарыць з беларускім ваенным пракурорам Вячаславам Віктаравічам ЛЮБАВІЦКІМ. «Прамая лінія» з яго ўдзелам адбудзецца 17 лютага з 14 да 15 гадзін.**

**Задаць пытанні генерал-маёру юстыцыі ў гэты час можна па тэлефонах: (8-017) 232-38-21; 232-38-92. А таксама пішыце, калі ласка, на адрас рэдакцыі газеты «Звязда».**

## УЗВЕСЦІ Б ХРАМ, А ПЕЧКУ — ЗРОБІМ!





Мінскае прафесійна-тэхнічнае вучылішча № 114 будаўнікоў вядома, напэўна, ва ўсіх абласцях рэспублікі, бо спецыялісты, падрыхтаваныя ў гэтай установе, працуюць сёння паўсюдна, дзе разгорнуты новабудоўлі. Чвэрць стагоддзя мінула з дня заснавання вучылішча, а галоўныя спецыяльнасці, якім тут вучаць, застаюцца ўсё тыя ж: вучаць тут, як будаваць, каб было трывала, прыгожа і танна. Вучаць і як аздобіць пабудову прыгожай разьбой па дрэву, зелянінай, пафарбаваць сцены.

Гэтымі днямі ў адной з залаў вучылішча адкрылася выстава тэхнічнай творчасці навучэнцаў.

Убачыць можна шмат, але ёсць тут і такое, што пакуль не ўваходзіць у вучэбны план. Будучыя майстры зрабілі макет праваслаўнага храма — увасабленне таго будынка, давер на ўзвядзенне якога яны мараць з часам атрымаць.

Атрымаюць. Узвядуць. Бо хто як не яны, сённяшнія падмайстры, заўтра зоймуць сваё месца на рыштаваннях у гарадах і вёсках нашай краіны.

**Яўген ПЯСЕЦКІ.**

***На здымках:*** так выглядае макет царквы, якую мараць пабудаваць навучэнцы; Аляксандр ГАПАНЁНАК авалодвае спецыяльнасцю рэзчыка па дрэву; такую печку змогуць скласці тыя, хто вучыцца тут на печніка.

**XVIII зімовыя Алімпійскія гульні**




## НАС ЧАКАЕ БЕЛАРУСКА-РАСІЙСКАЕ РАНДЭВУ

З-за адсутнасці працягу рэальных «медалёвых перспектыў» (да сённяшняга дня — сёння ў 6 гадзін раніцы па беларускаму часу пачнецца мужчынская гонка біятланістаў на 10 км) амаль тыдзень беларускія балельшчыкі жылі хакеем.

Пасля пройгрышу канадцам з лікам 0:5 наіўна было б спадзявацца на станоўчы вынік у матчах з амерыканцамі і шведамі. Праўда, дзякуючы новай формуле правядзення хакейнага алімпійскага турніру на другім этапе, калі ні адна з каманд вялікай васьмёркі да чвэрцьфіналу не выбывае, нашы маглі свабодна «пашукаць» сваю гульню ў матчах з НХЛаўскімі


**(Заканчэнне на 2-й стар.)**

# УКАЗ
## ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ
**№ 71**
## АБ УТВАРЭННІ ДЗЯРЖАЎНАГА КАМІТЭТА ФІНАНСАВЫХ РАССЛЕДАВАННЯЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

У мэтах узмацнення кантролю за выкананнем заканадаўства аб прадпрымальніцтве і падатках **пастанаўляю:**

1. Утварыць Дзяржаўны камітэт фінансавых расследаванняў Рэспублікі Беларусь на базе Галоўнага ўпраўлення падатковых расследаванняў Дзяржаўнага падатковага камітэта, падпарадкаваўшы яму абласныя, па г. Мінску, гарадскія і міжраённыя падраздзяленні падатковых расследаванняў.

2. Устанавіць, што Дзяржаўны камітэт фінансавых расследаванняў з'яўляецца праваахоўным органам, да асноўных задач якога адносяцца:

папярэджанне, выяўленне і спыненне правапарушэнняў у сферы прымянення заканадаўства аб прадпрымальніцтве і падатках;

вядзенне дазнання і папярэдняга следства па справах аб парушэннях заканадаўства аб прадпрымальніцтве і падатках і іншых справах, аднесеных законам да яго ведання:

забеспячэнне абароны супрацоўнікаў дзяржаўных падатковых органаў пры выкананні імі службовых абавязкаў;

распрацоўка і ажыццяўленне ў межах сваёй кампетэнцыі мераў па прадухіленню і спыненню праяўленняў карупцыі ў дзяржаўных падатковых органах;

узаемадзеянне з аператыўнымі і следчымі падраздзяленнямі праваахоўных органаў рэспублікі і іншых дзяржаў, якія вядуць барацьбу са злачыннасцю ў сферы эканомікі.

3. Устанавіць, што Старшыня Дзяржаўнага камітэта фінансавых расследаванняў Рэспублікі Беларусь назначаецца на пасаду і вызваляецца ад пасады Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь.

4. Устанавіць, што да ўступлення ў сілу закона аб органах фінансавых расследаванняў Дзяржаўны камітэт фінансавых расследаванняў у сваёй дзейнасці кіруецца Законам Рэспублікі Беларусь «Аб міліцыі», Законам Рэспублікі Беларусь «Аб дзяржаўнай падатковай інспекцыі Рэспублікі Беларусь» і Законам Рэспублікі Беларусь «Аб аператыўна-вышуковай дзейнасці».

5. Савету Міністраў Рэспублікі Беларусь:

5.1. у месячны тэрмін зацвердзіць структуру і штаты Дзяржаўнага камітэта фінансавых расследаванняў у межах штатнай колькасці работнікаў Галоўнага ўпраўлення падатковых расследаванняў Дзяржаўнага падатковага камітэта і яго падраздзяленняў, зацверджанай пастановай Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 22 красавіка 1994 г. № 270, а таксама сродкаў, што выдзяляюцца на іх утрыманне;

5.2. у двухмесячны тэрмін:

па ўзгадненню з Дзяржаўным сакратарыятам Савета бяспекі Рэспублікі Беларусь прадставіць для зацвярджэння Прэзідэнту Рэспублікі Беларусь праекты Палажэння аб Дзяржаўным камітэце фінансавых расследаванняў Рэспублікі Беларусь і Палажэння аб праходжанні службы ў органах фінансавых расследаванняў Рэспублікі Беларусь;

прывесці рашэнні ўрада і падпарадкаваных яму рэспубліканскіх органаў дзяржаўнага кіравання ў адпаведнасць з гэтым Указам;

прадставіць Прэзідэнту Рэспублікі Беларусь праект закона аб органах фінансавых расследаванняў, а таксама праект закона аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Крымінальна-працэсуальны кодэкс Рэспублікі Беларусь, што вынікаюць з палажэнняў гэтага Указа.

6. Дапоўніць раздзел «Дзяржаўныя камітэты Рэспублікі Беларусь» сістэмы рэспубліканскіх органаў дзяржаўнага кіравання, падпарадкаваных Ураду Рэспублікі Беларусь, зацверджанай Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 11 студзеня 1997 г. № 30 «Аб сістэме рэспубліканскіх органаў дзяржаўнага кіравання, падпарадкаваных Ураду Рэспублікі Беларусь» (Збор дэкрэтаў, указаў Прэзідэнта і пастаноў Урада Рэспублікі Беларусь, 1997 г., № 1, арт. 28; № 4, арт. 152), пасля абзаца пятнаццатага абзацам наступнага зместу:

«Дзяржаўны камітэт фінансавых расследаванняў».

7. Гэты Указ увесці ў дзеянне з дня яго падпісання.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А. ЛУКАШЭНКА.**

11 лютага 1998 г.
г. Мінск.



**Калектыў «Звязды» глыбока смуткуе з выпадку смерці былой супрацоўніцы рэдакцыі Антаніны Міхайлаўны ШЧАРБАТАВАЙ і выказвае шчырыя спачуванні яе родным і блізкім.**

*«Гарачыя» тэлефоны «Звязды» 268-27-51, 268-27-57*

## ПРОДАЖ АЎТО ПРЫМЯРКОЎВАЙЦЕ ДА КАНЦА ГОДА

Патэлефанаваў Сяргей Хурнікаў, у якога ўзнікла праблема з аплатай дарожнага збору. У сярэдзіне студзеня Хурнікаў набыў аўтамабіль. Пры афармленні неабходных дакументаў у ДАІ высветлілася цікавая рэч — дарожны збор заплацілі абодва бакі: і пакупнік, і прадавец. Апошняму, праўда, прыйшлося выкладваць грошы толькі за паўгода (250 тысяч рублёў). Хурнікаў заплаціў за год — 500 тысяч рублёў (дзве «мінімалкі»). «Дзе ж логіка? — пытаецца наш чытач. — Атрымліваецца, што за адзін аўтамабіль заплачана дарожнага збору на 250 тысяч рублёў больш...»

Як растлумачылі нам ва ўпраўленні дарожных фондаў, фінансаў і рэвізійнай работы Камітэта па аўтамабільных дарогах, у адпаведнасці з існуючымі правіламі, калі адбываецца продаж аўтамабіля, то дарожны збор павінны плаціць абодва бакі. Прадавец уносіць грошы за паўгода (калі раней не разлічыўся), пакупнік — за год. Так што продаж аўто лепш за ўсё прымеркаваць да канца года — тады плаціць прыйдзецца толькі таму, хто набывае транспартны сродак.

**Мікалай ЛІТВІНАЎ.**

## ЁН ПАКІНУЎ ДОБРУЮ ПАМЯЦЬ АБ САБЕ...

Урачысты вечар, прысвечаны 80-годдзю з дня нараджэння Героя Савецкага Саюза, Героя Сацыялістычнай Працы Пятра Міронавіча Машэрава, адбыўся 13 лютага ў мінскім Цэнтральным Доме афіцэраў. У ім прынялі ўдзел кіраўнікі беларускага парламента, прадстаўнікі мінскіх уладаў, родныя і блізкія Пятра Машэрава, а таксама сотні простых людзей, якія прыйшлі ўшанаваць памяць слаўнага сына беларускага народа.

Старшыня Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Анатоль Малафееў падкрэсліў, што «імя Пятра Машэрава святое на беларускай зямлі, яно дарагое ўсім, хто жадае Беларусі працвітання». Ён таксама сказаў, што гэты вечар «не проста даніна павагі, прызнанне заслуг выдатнага дзяржаўнага і грамадскага дзеяча нашай краіны, а заклік да ўсяго беларускага народа для паступальнага руху наперад».

**Андрэй АЛЕКСАНДРОВІЧ, БЕЛТА.**

# МЗС НАГАДАЛА АБ ПРЫХІЛЬНАСЦІ БЕЛАРУСІ ДА БЯЗ'ЯДЗЕРНАГА КУРСУ

Інфармацыя аб тым, што Беларусь валодае прыблізна дзвюма тонамі зброевага плутонію і ўрану, якая прагучала 8 лютага ў тэлевізійнай праграме «Рэзананс», а таксама выказаная ў гэтай жа праграме думка яе вядучага аб тым, што нашу краіну можна аднесці да так званых парогавых дзяржаў, паслужылі падставай для прыняцця адпаведнай заявы Міністэрствам замежных спраў рэспублікі. Усё вышэйпададзенае названа ў ёй прыватнай думкай журналіста і прызнана, што гэта не адпавядае рэчаіснасці.

Акрамя таго, у заяве адзначаецца, што недапушчальны такі дылетанцкі падыход пры асвятленні настолькі сур'ёзных і складаных пытанняў, сказаў у сваім інтэрв'ю расійскім журналістам Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка.

Між тым, крокі кіраўніцтва Беларусі як на ранніх этапах дзяржаўнасці, так і цяпер, ясна і дакладна сведчаць аб паслядоўнай прыхільнасці да без'ядзернага курсу, абвешчанага ў 1991 годзе. Рэспубліка Беларусь у духу добрай волі першая ў свеце добраахвотна адмовілася ад рэальнага валодання ядзерным патэнцыялам і абвясціла курс на без'ядзернасць.

«4 лютага 1993 года Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь ратыфікаваў Дагавор аб скарачэнні і абмежаванні стратэгічных наступальных узбраенняў ад 31 ліпеня 1991 года і Лісабонскі пратакол да яго ад 25 мая 1992 года, а таксама прыняў рашэнне аб далучэнні Беларусі да Дагавора аб нераспаўсюджванні ядзернай зброі ў якасці дзяржавы-ўдзельніцы, якая не валодае ядзернай зброяй.

3 ліпеня 1996 года Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка выступіў з ініцыятывай аб стварэнні без'ядзернай прасторы ў Цэнтральнай і Усходняй Еўропе, што прама падразумявае без'ядзернасць Беларусі.

24 верасня 1996 года Беларусь у ліку першых падпісала Дагавор аб усеабдымнай забароне ядзерных выпрабаванняў, у адпаведнасці з якім дзяржавы-ўдзельніцы бяруць на сябе абавязацельства не праводзіць ніякіх ядзерных выпрабавальных выбухаў.

26 верасня 1997 года міністр замежных спраў Рэспублікі Беларусь падпісаў Мемарандум аб правапераемнасці ў сувязі з Дагаворам паміж СССР і ЗША аб абмежаванні сістэм проціракетнай абароны.

У 1996 годзе, на год раней намечанага тэрміну, завяршэнне вываду ядзерных узбраенняў з беларускай тэрыторыі азнаменавала новы адлік часу ў гісторыі нашай дзяржавы.

Цяпер Беларусь мае унікальны нейтронны генератар, які ёсць толькі ў Японіі, ЗША і Расіі; у наяўнасці некаторая колькасць ядзерных матэрыялаў з рознай ступенню абагачэння. Уся дзейнасць нашай краіны ў галіне ядзерных матэрыялаў пастаўлена пад кантроль і гарантыі МАГАТЭ. Беларусь з'яўляецца актыўным удзельнікам праграмы супрацоўніцтва з ЗША, Японіяй і Швецыяй па забеспячэнню фізічнай аховы ядзерных матэрыялаў, іх уліку і кантролю. У рамках гэтай праграмы створаны комплекс, які адпавядае сусветным патрабаванням і забяспечвае недапушчэнне адцягнення матэрыялаў, што падвяргаюцца рэакцыі расшчаплення, на мэты, не сумяшчальныя з міжнароднымі абавязацельствамі Рэспублікі Беларусь», — гаворыцца ў заяве МЗС.

**БЕЛТА.**

## НАС ЧАКАЕ БЕЛАРУСКА-РАСІЙСКАЕ РАНДЭВУ

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)**

зоркамі, набрацца вопыту і ацаніць свае сілы ў матчах з прафесіяналамі.

Ці выйшла гэта ў нашых хакеістаў — меркаваць балельшчыкам і трэнерам. Аднак нават хакейнаму дылетанту ясна, што беларусы сёння — каманда з характарам, дзе шмат сапраўдных майстроў, але якія пакуль вельмі хвалююцца перад знакамітымі сапернікамі. Як вынік — мноства нерэалізаваных небяспечных момантаў. І ўсё ж хакейная зборная Беларусі ў Нагана — гэта наша гордасць і надзея на будучае. Хоць у душы айчынных аматараў хакея, несумненна, закралася думка аб паспяховым выступленні падначаленых Анатоля Варывончыка ў 1/4 фіналу. А сапернікамі беларусаў будуць не хто іншы, як расіяне. Гэта стала вядома пасля таго, як зборная Расіі ў апошняй сустрэчы групы «С» з камандай Чэхіі не без праблем абыграла іх з мінімальным лікам 2:1. Можна толькі меркаваць, што беларускія легіянеры атрымаюць перад першым матчам на выбыванне вялікі стымул да выхаду ў наступны этап турніру.



**Вынікі астатніх хакейных паядынкаў другога этапа:**

**14 ЛЮТАГА. Група «Д».** Беларусь —ЗША — 2:5, Швецыя — Канада — 2:3.

**15 ЛЮТАГА. Група «С».** Расія — Фінляндыя — 4:3, Чэхія — Казахстан — 8:2.

**16 ЛЮТАГА. Група «Д».** Канада — ЗША — 4:1, Чэхія — Расія — 1:2. **Група «С».** Фінляндыя — Казахстан — 8:2, Швецыя — Беларусь — 5:2.

Матчы 1/4 фіналу пройдуць заўтра, 18 лютага. Паміж сабой сустрэнуцца: Канада — Казахстан, ЗША — Чэхія, **Расія — Беларусь**, Швецыя — Фінляндыя.

**Уладзімір ЗДАНОВІЧ.**

## З'ЯВІЎСЯ НОВЫ СМЯРОТНЫ ВІРУС ГРЫПУ?..

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)**

**— Анатоль Кузьміч, ці можа новы, так званы «птушыны», вірус стаць прычынай чарговай пандэміі?**

— Існуюць 3 сералагічныя тыпы вірусаў грыпу: А, В і С. З іх толькі грып А і В могуць выклікаць эпідэміі, а грып А — яшчэ і пандэміі. Вірус з антыгеннай структурай А (H5N1), які атрымаў назву «птушынага», не такі ўжо і новы. Упершыню ён быў выяўлены ў 1961 годзе ў Паўднёвай Афрыцы ў аднаго з відаў крачкі. Вясной мінулага года «птушыны» вірус быў выяўлены ў дзіцяці, якое памерла з яўнымі паражэннямі цэнтральнай нервовай сістэмы і пячонкі (сіндром Рэя). Да сярэдзіны студзеня 1998 года было зарэгістравана ўжо 18 лабараторна пацверджаных выпадкаў грыпу А (H5N1): 5 чалавек памерлі, з іх трое дзяцей. Зараз у Ганконгу працуе група экспертаў Сусветнай арганізацыі аховы здароўя. Даследавана больш за 2000 узораў проб, якія былі ўзяты ў 16 відаў птушак і жывёл, з мэтай вызначэння патэнцыяльнага рэзервуара інфекцый, спосабаў распаўсюджвання вірусу грыпу ў жывёльным асяроддзі і механізма яго перадачы людзям. Эпідэмічная перадача «птушынага» грыпу ад чалавека да чалавека пакуль не даказана. У ва ўсіх выяўленых выпадках заражэнне адбылося пры кантакце з інфіцыраванымі птушкамі. Пры адсутнасці доказаў такой перадачы СААЗ не рэкамендуе прымаць нейкія асаблівыя меры барацьбы, а таксама абмяжоўваюць падарожжы ў Ганконг і ўводзіць каранцін.

Пакуль высвятляецца роля «птушынага» віруса ў будучых эпідэміях, Беларусі ўсё ж не ўдалося пазбегнуць эпідэміі грыпу, выкліканай ужо вядомымі вірусамі.

*Ужо на мінулым тыдні ў Мінску і некаторых іншых кантрольных гарадах (Лідзе, Салігорску, Бабруйску) было зафіксавана перавышэнне эпідэмічнага парога ў 3-4 разы. Аднак нідзе, акрамя сталіцы, устойлівага характару яно не набыло. Рашэннем Галоўнага дзяржаўнага санітарнага ўрача з 12 лютага Мінск пераведзены на «блакаднае становішча» — лютуе эпідэмія. Пакуль больш за ўсіх ад яе цярпяць дзеці — у розных раёнах у школах адсутнічае на занятках 16—30 працэнтаў вучняў. Многія сталічныя школы закрыты на каранцін.*

*Па прагнозах спецыялістаў, эпідэмія грыпу ў буйных гарадах рэспублікі зацягнецца на 5-6 тыдняў, у раёнах — на 3-4 і будзе насіць умераны характар. Згодна з загадам Міністэрства аховы здароўя, у населеных пунктах уведзены ў дзеянне комплексны план проціэпідэмічных мерапрыемстваў.*

**Сяргей ПРОТАС.**

### *Экспертна*

## ПА СЕНЬКУ І ШАПКА. І ШАПКА ДОБРАЯ...

**Ігар МАКАЕД, прэзідэнт хакейнага клуба «Цівалі» (Мінск):**

Учарашні вынік матча Швецыя — Беларусь — 5:2 — заканамерны. На сённяшні момант гульня нашай каманды суадносіцца з вынікам. Іншая справа, што майстэрства шведскіх і беларускіх ігракоў «высвечвала» хібы беларусаў і прафесіяналізм шведаў, аднак так і павінна быць. Таму не вельмі здзівіўся, калі хакеісты «Трэ крунур» амаль на ўсе сто выкарыстоўвалі свае магчымасці, а нашы ў выдатных сітуацыях проста тушаваліся. Адсюль і «пусты» выхад са шведскім галкіперам Андрэя Скабелкі, і нятрапны кідок у пустыя вароты шведаў Андрэя Кавалёва. А ўвогуле, «па Сеньку і шапка». «Шапка», трэба сказаць, добрая, таму асабліва засмучацца не варта.

## ПЕЛЕНГ-НАВІНЫ

### ПЛАН АТАКІ НА ІРАК УЖО РАСПРАЦАВАНЫ

Амерыканскае кіраўніцтва ў чарговы раз папярэдзіла Багдад, што ў выпадку неабходнасці выкарыстае сілу, калі іракскія ўлады не дапусцяць інспектараў ААН на ўсе без выключэння ваенныя аб'екты.

Згодна з інфармацыяй, якая трапіла ў СМІ, план атакі на Ірак ужо распрацаваны і вельмі нагадвае знакамітую аперацыю «Бура ў пустыні».

### СПРАВА АБ ЗАМАХУ НА ПРЭЗІДЭНТА ГРУЗІІ РАСКРЫТА

Улады Грузіі заявілі, што справа аб замаху на прэзідэнта рэспублікі Эдуарда Шэварднадзе раскрыта. Некалькі тэрарыстаў затрыманы. Міністр унутраных спраў падчас выступлення па тэлебачанні не паведаміў імёны арыштаваных і матывы іх дзеянняў. Ён паказаў фотаздымкі двух удзельнікаў тэракта, якія яшчэ знаходзяцца ў вышуку. Эдуард Шэварднадзе сказаў у нядзелю, што затрыманы 5 выканаўцаў тэракта — прыхільнікаў былога прэзідэнта Гамсахурдыі.

## ІНФАРМ-КАКТЭЙЛЬ

Кастарыканец Алекс Гідо не змог устаяць перад магчымасцю паўдзельнічаць у папулярным музычным конкурсе, які трансліраваўся ў прамым эфіры. На яго няшчасце, перадачу ўбачыў адзін са следчых пракуратуры і пазнаў у спеваку-аматару небяспечнага злачынцу. Перадача яшчэ ішла, ён яшчэ быў у тэлецэнтры, калі яго папрасілі «выйсці» на хвіліну ад імя нейкай «прыхільніцы яго таленту». Калі яго прама за дзвярыма арыштавалі, ён злаваўся толькі на сябе: «Мяне падвяла любоў да песні і славы». Гідо два гады таму быў завочна прыгавораны да доўгага тэрміну зняволення за забойства.

**ІТАР-ТАСС**

*Калі аператыўны дзяжурны па Нова-Савінскаму РАУС (Казань) прымаў паведамленне аб падзенні хлопчыка ў каналізацыйны калодзеж, ён не ведаў, што размова ідзе пра яго сына.*

*10-гадовы Слава, які выгульваў на вуліцы ротвейлера, выпадкова праваліўся ў адкрыты люк. Падаючы, ён не выпусціў з рук павадка, што і выратавала яму жыццё.*

*Верны сабака зачапіўся лапамі за асфальт і неверагоднымі намаганнямі ўтрымліваў гаспадара навісу. Заўважыўшы незвычайныя паводзіны сабакі, прахожы патэлефанаваў у міліцыю. Усё абышлося...*

**«Труд»**

**Віцебск стане адміністрацыйным цэнтрам пры другім кіраўніку вашай дзяржавы. Мінск застанецца вялікім горадам, буйным культурным цэнтрам, а ўсе адміністрацыйныя функцыі будуць належаць Віцебску. А хто мог меркаваць, што сталіца Казахстана будзе перанесена з Алма-Аты ў Акмалу? У Амерыцы сталіца Вашынгтон, а не Нью-Йорк. У Аўстраліі, Бразіліі таксама маленькія гарады. Практыка сведчыць, што размяшчэнне сталіцы ў невялікіх пунктах больш разумнае.**

*Хочаце — верце...*

# Сцэнарый XXI стагоддзя, напісаны Паўлам Глобам

*Павел Глоба даволі часта прыязджае на Беларусь. Падчас свайго апошняга візіту вядомы расійскі астролаг даў інтэрв'ю газеце «Звязда».*

**— Павел Паўлавіч! У адным са сваіх інтэрв'ю вы сказалі, што Беларусь чакае марудны, але стабільны працэс пад'ёму. Калі рэальна мы гэта адчуем?**

— Сапраўды, у вас ужо пайшлі справы да лепшага. Беларусь звязаная са знакам Казярога, а значыць упартым, хоць павольным напачатку, затое чэпкім. Верагодна, яшчэ два гады беларусам давядзецца складана, практычна без адчувальных змен. Але потым дыхаць стане вальней.

**— А калі пакінуць Зямлю пад белымі крыламі наступствы чарнобыльскай катастрофы?**

— Нашмат хутчэй, чым лічаць многія вучоныя. Справа ў тым, што яны не ведаюць некаторых прыродных фактараў, напрыклад, выжывальнасці, здольнасці пазбаўляцца ад ўздзеяння радыяцыі. Думаю, што ваша прырода не можа лічыцца безнадзейна сапсаванай Чарнобылем. Працэс аднаўлення будзе доўжыцца на працягу гадоў пяцідзесяці. Не так шпарка, як хацелася б, але куды хутчэй, чым мяркуюць сёння.

**— Гэта падзеі, на жаль, не заўтрашняга дня. А чаго чакаць заўтра? У прыватнасці, па прадказаннях некаторых астролагаў, люты «прыгатаваў» беларусам грашовую рэформу.**

— Не думаю, што дэнамінацыя «зайчыка» пагражае вам сёлета. А ў наступным годзе — рэальна. І сур'ёзных палітычных узрушанняў чакаць пакуль не прыходзіцца. Вы будзеце спакойна жыць, будаваць. Пад кіраўніцтвам прэзідэнта, які прыйшоў усур'ёз і надоўга. Аляксандр Лукашэнка застанецца ва ўладзе да той пары, пакуль сам не палічыць патрэбным не балаціравацца на выбарах на наступны тэрмін. А ён будзе балаціравацца столькі, колькі будзе жыць. І столькі ж будзе праходзіць. Двойчы — дакладна. Верагодна, што да 2008 года тытул прэзідэнта застанецца за сённяшнім кіраўніком. Калі толькі ён не падзе ахвярай замаху, магчымасць якога вельмі рэальная.

**— А хто стане другім прэзідэнтам Беларусі? Ужо вызначыліся кандыдаты?**

— Пасля Аляксандра Лукашэнкі кіраваць рэспублікай пачне «будаўнік». Пакуль прэтэндэнтаў на яго ролю я не бачу. Але відавочна, што гэта будзе чалавек не малады і не стары (дзесьці пяцідзесяцігадовага ўзросту), не вельмі высокі і не лысы. Рэальна ён праявіць сябе пасля 2000 года. Вельмі перспектыўны, эканамічна адукаваны чалавек, не дыктатарскага складу. Пры ім канчаткова завершыцца аднаўленне славянскай еднасці.

**— Якія краіны аб'яднаюцца пад адным дахам?**

— Працэс гэты будзе доўгім, дзесьці каля 18 гадоў. У пачатку XXI стагоддзя рашэнне аб уступленні ў зусім новы саюз прыме Украіна. Далучацца частка Каўказа, Грузія, Казахстан. Астатнія сярэднеазіяцкія рэспублікі застануцца самастойнымі. Малдова далучыцца на роўных правах, і балканскія краіны. Затое вернецца да Германіі Калінінградская вобласць. Латвія таксама далучыцца да нямецкай дзяржавы. Гэта ўсё сцэнарый XXI стагоддзя.

**— Па сцэнарыю наступнага стагоддзя Амерыцы пагражае астэроід Тутакіс...**

— Думаю, што ўсё ж людзі зменяць яго траекторыю, хаця нейкі асколак даляціць да Зямлі. Больш Злучаным Штатам Амерыкі пагражаюць унутраныя катаклізмы. Думаю, што як адзіная дзяржава гэтая краіна перастане існаваць, распадзецца на асобныя штаты: на Усходняе і Заходняе ўзбярэжжа, на Сярэдні Захад. Каліфорнія і Тэхас стануць асобнымі дзяржавамі, а Аляска ўвойдзе ў састаў Расіі. Адлучэнне і вяртанне гэтай часткі Зямлі раздзяляюць усяго нейкія 150 гадоў.

**— Калі такая перспектыва ў Амерыкі, ці застанецца ўстойлівым паток эмігрантаў?**

— А чаго туды ехаць? Да нас жа зараз не вельмі едуць. Людзі памкнуцца ўжо ў Расію, у краіны, якія аб'ядноўваюцца і квітнеюць.

**— Неўзабаве абяцаецца «аўстралійскі цуд»...**

— Так, у наступным стагоддзі мы будзем гаварыць пра ўвесь Паўднёвы рэгіён. Аўстралія, Бразілія, Афрыка, Мадагаскар, Інданезія дасягнуць высокага эканамічнага развіцця.

**— А ў Беларусі будуць гаварыць пра новую сталіцу — Віцебск...**

— Абсалютна правільна. Гэты горад стане адміністрацыйным цэнтрам пры другім кіраўніку вашай дзяржавы. Мінск застанецца вялікім горадам, буйным культурным цэнтрам, а ўсе адміністрацыйныя функцыі будуць належаць Віцебску. Чаму дрэнна ўяўляецца? А хто мог меркаваць, што сталіца Казахстана будзе перанесена з Алма-Аты ў Акмалу? У Амерыцы сталіца Вашынгтон, а не Нью-Йорк. У Аўстраліі, Бразіліі таксама маленькія гарады. Практыка сведчыць, што размяшчэнне сталіцы ў невялікіх пунктах больш разумнае. Не думаю, што Віцебск істотна павялічыцца. Ён мае выгадныя пазіцыі для будучага статусу: знаходзіцца ля граніц трох рэспублік, непадалёку — балтыйскія краіны, да таго ж у самай экалагічна чыстай мясцовасці на беларускай тэрыторыі, наколькі я ведаю. І фестываль «Славянскі базар», які заўсёды будзе праходзіць у Віцебску, — першы крок ва ўмацаванні ролі гэтага горада. Аднак вы гэтага яшчэ не разумееце.

**— Павел Паўлавіч! Падчас сваёй лекцыі ў Віцебску восенню вы гаварылі пра верагоднасць пачатку дзеянняў Антыхрыста.**

— Я гаварыў пра зацьменне Сонца 5 лютага 2000 года, якое апісана ў Евангеллі. Гэтую з'яву можна каменціраваць як прымету, знак прыходу Антыхрыста. Але як разгорнуцца падзеі і калі рэальна адбудзецца з'яўленне гэтай істоты я не вазьму на сябе смеласць сцвярджаць. Хаця ўжо ў гэтым годзе, магчыма, упершыню праявіць сябе чалавек, якога потым назавуць Антыхрыстам. Сёлета ўвогуле трэба быць вельмі асцярожнымі. Прыйшоў час вялікіх таямніц. Толькі той, хто мае вушы, — пачуе, той, хто мае вочы, — убачыць. Мы можам не заўважыць, не звярнуць увагі на тое, што побач, што потым абернецца катастрофай. Нават я магу не заўважыць. А Антыхрыст будзе ціха і сціпла жыць у кватэры пад нумарам 666, ці мець пашпарт з такімі ж лічбамі. І ціха рабіць свае разбуральныя справы.

**— Здаецца, больш жудаснага, чым смяротныя хваробы, і прыдумаць нельга.**

— Могуць быць яшчэ больш страшныя і цяжкія хваробы. У пачатку наступнага стагоддзя знойдуць лякарства, якое калі не поўнасцю вылечвае СНІД, дык моцна блакіруе, замаруджвае развіццё хваробы. Але з'яўленне новых хвароб, ад якіх ратавацца амаль немагчыма, вельмі рэальнае.

**— Павел Паўлавіч, заканчваючы нашу размову, звернемся да «Старонкі Паўла Глобы», якая пастаянна друкуецца ў газеце «Звязда». Іншы раз чытачы скардзяцца, што вы раіце займацца хатнімі справамі падчас вялікіх рэлігійных святаў, або ў нядзелю, напрыклад, пачынаць судовыя працэсы.**

— У сваіх прадказаннях я кіруюся сонечным і месяцавым календаром. А свяцілам жыць па календару той ці іншай канфесіі не загадаеш. Да таго ж неабавязкова сячы дровы якраз у гадавое свята. Або ісці ў суд. Дзень можна выкарыстаць для напісання іскавай заявы. А даць ёй ход пазней. Тое ж самае датычыцца наведвання ўрачоў. Забарона рабіць нейкую аперацыю распаўсюджваецца на планавую. Калі размова вядзецца аб пагрозе для жыцця, то, вядома, немагчыма прытрымлівацца парад астролага. Але перанесці візіт да стаматолага на адзін-два дні магчыма. Гэта дазволіць пазбегнуць ускладненняў.

**Жанна КАТЛЯРОВА.**

*ПАМЯЦЬ СВЕТЛАЯ*

# На хутары паблізу Межна...

Аб незвычайным конкурсе на лепшую творчую работу пра Пятра Міронавіча Машэрава, які аб'яўлены прыватнай асобай, давялося пачуць яшчэ гады два таму. Падумалася: з «новых беларусаў» хтосьці дзівачыць. Аказалася, сапраўды беларус, але не з «новых», а хутчэй са «старых» — былы партызан Леанід Фёдаравіч Рабінін. І правёў ён свой конкурс у Расонах! Сачыненні, малюнкі, вершы прадставілі школьнікі і працоўная моладзь. І прызы, купленыя з дапамогай мясцовых уладаў, уручылі тады пераможцам. Лепшыя работы апублікавалі ў мясцовым друку. Ды і забыліся аб мерапрыемстве.

А Леанід Фёдаравіч зноў цяпер арганізаваў конкурс. Прызы ж сабраўся купляць за сваю пенсію.

...Два домікі стаяць побач у расонскай глухамані. У адным размясціўся філіял Расонскага музея партызанскай славы. У другім жывуць Рабініны. Адышоўшы ад спраў, а быў Леанід Фёдаравіч партызанам, партыйным работнікам, намеснікам дырэктара БЕЛТА, пасяліўся ён з жонкай у месцах сваёй баявой маладосці, стаў добраахвотным даглядчыкам музея. І дзякуючы конкурсу змог прыцягнуць увагу маладога пакалення да беларускага нацыянальнага героя, якім лічыць Пятра Міронавіча Машэрава.

Памяць пра ўраджэнца Віцебшчыны, партызанскага камбрыга, першага сакратара ЦК КПБ засталася ў гэтых месцах добрая, светлая. Але што могуць ведаць пра яго цяперашнія школьнікі? Аказваецца, і ім ёсць што сказаць. Вось, напрыклад, радкі з аднаго конкурснага верша:

*Мы — дзеці мірнае часіны,*
*З табой знаёмы не былі.*
*Але ж ты след такі пакінуў,*
*Што быццам і цяпер жывы.*

Напісала яго вучаніца 8 класа Заборскай школы Алеся Нікалаева. А верш трапіў у музей. Як і ўспаміны самога яго даглядчыка... Вось некаторыя з іх.

«Гэта было ў 1942-м. Я камандаваў у той час атрадам імя Варашылава, які стаяў у Краснаполлі. А Машэраў знаходзіўся каля Расонаў. Першае знаёмства з ім я назваў бы «чыноўніцкім» — на нарадзе камандзіраў атрадаў. Галоўнае ж знаёмства адбылося, калі рыхтаваліся ўзарваць мост у Сівошыне. Ён кіраваў спецгрупай атрада імя Фрунзе, а я — варашылаўскай. Падышлі да моста. Усё было накіравана на атаку, чакалі выбуху. Мост павінен быў узарвацца ад плота з мачтай, які мы пусцілі па цячэнню. Мачтай закране мост, узарвецца на плату аманал, мост узляціць у паветра, а мы прыкончым гарнізон. Але плот засеў у старых сваях яшчэ да моста. Наша ідэя рухнула. Акрамя таго, падвезлі станкавыя кулямёты на конях. А коні голас падаюць... Немцы падняліся і адкрылі агонь. Нам давялося адступіць. І нават са стратамі. Штурмавая група Машэрава страціла чатырох чалавек. Такім было першае знаёмства».

А вось іншыя старонкі, якія расказваюць ужо пра мірны час.

«Быў я другім сакратаром Бабруйскага гаркама партыі. Неяк пад вечар пасля работы прыязджае Машэраў. Восень, дождж праліўны.

— Прывітанне!

— Прывітанне!

А першы сакратар у водпуску быў.

— Пакажы мне твой лён, — гаворыць Пётр Міронавіч. — Паехалі на сцелішча!

А я, па праўдзе кажучы, ні разу там не быў. Не ведаю, дзе яно ў раёне. Выехалі ў адзін з калгасаў. Поле заліта вадой. У вадзе плавае лён. Вырашылі паглядзець бліжэй. А я ў новых англійскіх паўчаравіках. Ён таксама ў паўчаравіках. Ну, думаю, ён пойдзе, і я за ім — куды дзенешся? Машэраў жа дастае гумавыя боты і абувае. Я кажу: «А мне?»

— А табе? Прасі ў вадзіцеля.

Так я і даведаўся, што такое сцелішча».

Усё менш людзей прыязджае на месца дыслакацыі партызанскай брыгады. Прыгледзелі хутарок сапраўдныя «новыя беларусы», добра, і возера Межна побач — месца запаведнае. А тут Рабінін з ідэяй стварэння фонду імя Машэрава. Прапанавалі дзелавыя людзі яму дапамагчы, ды пабаяўся Леанід Фёдаравіч, што праз фонд хочуць ператварыць райскі куток прыроды ў базу адпачынку, якая нічога агульнага не мае з памяццю пра дзяржаўнага чалавека. Адмовіў. А без яго тут, у расонскай глушы, нічога не вырашаюць. Так і застаўся музей у памяць аб былым лідэру краіны.

**Вольга СІДАРОВІЧ.**

# Яшчэ адзін след «Звязды» знайшоўся ў Слуцку і пройдзе да Жыціна

**Чалавек гэты нераўнадушны да Беларушчыны. І хаця справа яго тэхнічная, а не забыў ён роднае слова. Шчырыя, употай напісаныя радкі Рыгора Іванавіча Дубіны трапілі нядаўна ў рэдакцыю. Добрая беларуская мова, любоў да Бацькаўшчыны кранулі, а тут яшчэ навіна: наш карэспандэнт аказаўся шчаслівуцам — выйграў па звяздоўскай латарэі пару абутку.**



І вось мы сядзім у рэдакцыйным пакоі побач са стосам новых прыгожых прызоў будучай латарэі і разважаем над сэнсам жыцця.

«Я з Жыціна, што ў Асіповіцкім раёне. Вельмі люблю родны куток. І хаця перабраўся на Случчыну, а душой заўсёды ў роднай вёсцы. Люблю «Звязду» за яе памяркоўнасць. Адкрываючы свежы нумар, успамінаю бацькоў. На жаль, мой шматпакутны бацька, які чатыры гады правёў у фашысцкім палоне, — памёр, затое жыва мамка. Шкадуе яна, што няма ўжо той беларускай вёскі, якая была раней, не зойдзеш у любы двор, дзе цябе прывітаюць, пагамоняць, як з роднай. Усё больш на вёсцы новых, незнаёмых людзей...

Расце новае пакаленне, дай Божа, каб помніла яно карані...»

Рыгор Іванавіч да слёз расчуліўся. Мы яго падтрымалі, супакоілі. Не, не згінуў беларус! Ды і сам факт нашага яднання з чытачом — ці ж гэта не сведчанне адраджэння?

Праўда, мы адышлі ад лапцей, дык ці ж не на радасць дзеткам і вашай любай Надзеі Іванаўне будуць новыя чаравікі ад «Звязды»? Яны выраблены на «Белвесце» — беларуска-германскім прадпрыемстве.

Крочце ў іх, Рыгор Іванавіч, па свеце, ганарыцеся званнем беларуса, і хай любоў да роднага краю перадаецца ўсім вашым нашчадкам!

**Віктар ХУРСІК.**

# У ЛЮТЫМ «ЛЮТУЕ» ТОЛЬКІ ДЖАЗ

**Традыцыйна аматары «музыкі тоўстых» напрыканцы лютага атрымліваюць свой фестываль.**

Сёлета пад сцягам фестывалю чакаецца выступленне не толькі біг-бэнда Дзяржаўнага канцэртнага аркестра і розных яго параджэнняў. Упершыню выступяць і іншыя беларускія джазісты: «Аніма-квартэт» з Наваполацка, баранавіцкі «Дыксіленд», два калектывы з Мінска — пад кіраўніцтвам Пыльцікава і Бялова. Да адкрыцця біг-бэнд канцэртнага аркестра пад кіраўніцтвам М. Фінберга падрыхтаваў новую праграму. Таксама парадуе сваіх прыхільнікаў новымі творамі гурт Ігара Сацевіча, які стаў больш вядомы пад назвай «Яблычная гарбата».

Вядома, будуць і госці. Напрыклад, з Масквы прыедзе дзіцячы джазавы ансамбль пад кіраўніцтвам Пятра Пятрухіна. А вечар вакальнага джаза забяспечыць таксама расійскі калектыў пад кіраўніцтвам народнага артыста Расіі Анатоля Крола.

Самае галоўнае, што ўся чатырохдзённая імпрэза, да якой маюць дачыненне беларускія і расійскія калектывы, сёлета прысвячаецца 100-годдзю з дня нараджэння сусветна вядомага кампазітара Джорджа Гершвіна. З 23 па 26 лютага ў мінскім клубе імя Дзяржынскага гэтае імя будуць вымаўляць часта і ў поўны голас. Што тут такога? Проста фестываль «Мінск-98». Напрыканцы зімы. Напрыканцы эпохі.

**Ларыса ЦІМОШЫК.**

## Старонка Паўла Глобы

### 18 лютага, серада

**РЭКАМЕНДАЦЫІ**. Дзень заключэння доўгатэрміновых кантрактаў і падпісання важных дакументаў, звязаных з працоўнай дзейнасцю. Спрыяльны перыяд для пераходу на новае месца работы. Трэба быць актыўным і рашучым. Проціпаказаныя гультайства і адзінота, старайцеся больш часу праводзіць у калектыве. Не трэба хлусіць і парушаць клятву вернасці. Неабходна ўсё рабіць сваімі рукамі. Даглядайце жывёл. Не рэкамендуецца рабіць пакупкі, не трэба дарыць і прымаць падарункі. Спрыяльныя загартоўванне і прагулкі на свежым паветры. Проціпаказана галаданне.

**ПРЫМЕТЫ**. Запэцкацца ў гразь — да матэрыяльнага недабрабыту. Калі ў гэты дзень вы ўбачыце многа хлеба, хлебных крошак ці сустрэнеце мноства птушак (лепш сінічак), — знак багацця і дапамогі ў цяжкую часіну. Знайсці драўляны выраб азначае, што вам можа быць аказана дапамога ў павышэнні па службе.

**СНЫ**. Добра бачыць дынамічныя сны. Змаганне і бітва — знак барацьбы з недахопамі ў сабе і іншых. Бачыць сябе з кароткімі валасамі ці стрыгчы валасы — знак пазбаўлення ад таго, што вам перашкаджае. На яркія сны не звяртайце ўвагі. Работа з зямлёй — знак шчасця і ўдачы. Прымаць ежу — да багацця.

**МЕДЫЦЫНА**. Слабае месца — печань, прамая кішка і палавая сфера. Проціпаказаны экстрасенсорнае лячэнне і прамянёвая тэрапія. Нельга рабіць уколы. Добра лячыць хваробы горла і шыі. Неабходна праводзіць кроваачышчальныя працэдуры.

**Падрыхтавана да друку спецыяльна для «Звязды» астралагічным цэнтрам «АРБА».**

**Да памяці звычайна вяртаюць рэчы зусім не выпадковыя. Як правіла, сны. Альбо — збег, так, прадвызначаны псіхалогіяй паводзінаў збег абставінаў, прадвызначаны яшчэ, пэўна ж, і псіхалогіяй навакольнай прыроды. Хаця, дакладней, мусіць, было б сказаць — абуджаюць памяць, робяць яе вастрэйшай. Бо калі яна, памяць, ёсць, то ўжо ёсць. Калі згубленая, то беззваротна.**

# ...НЕ ТОЙ ДУШЭЎНЫ НАСТРОЙ,
## альбо Як няпроста быць дысідэнтам духу

ВЯРНУЦЦА ДА ЛЁСУ, аднаго ўсяго толькі лёсу як тэмы прымусіла размова з адным матэматыкам. Той, пакуль яшчэ не доктар навук, у вольны ад адкрыццяў час чытае беларускую літаратуру. Прачытаў раман Уладзіслава Рубанава «Не аднойчы забіты». Спадабаўся матэматыку не столькі сюжэт, колькі выкладзеныя каменьчыкамі эмоцыі як адбітак існавання ў гэтым свеце. Значыць, сапраўды «свет перакулены»? Сказаў матэматык і пра такую вось раманную згадку-адмеціну (цытую ўжо непасрэдна з самога твора Уладзіслава Рубанава, якога той свет забраў, дазволь, Гасподзь, выказаць сваё прыватнае меркаванне — «особое мнение», — мусіць, таксама дачасна): «...З Грузіі прыляцела чорным груганом тэлеграма: МЕКОТА ПОГИБ ТЧК. Нібыта выкінуўся з акна сваёй кватэры, з дзевятага паверха. Апроч версіі аб самазабойстве, намацвалася кампетэнтнымі органамі і другая: помста грузінскіх баевікоў, гвалтоўнае забойства». І далей: «Калі самазабойства, то што прымусіла маладога мужчыну з такой магутнай апораю, якую давала прыналежнасць да малапранікальнага клана, ісці на гэты крок? Зрэшты, падобным чынам расквітаўся з жыццём ужо не адзін чалавек з вядомых яму людзей...»

Так, гэта пра Міколу Калінковіча (колішнія журфакаўцы ведаюць, пэўна, яго як Калянковіча. Змяніўшы адну літару, ён набыў сабе літаратурны псеўданім. Той, які на вокладках кніг — «Палескія дні Аляксандра Блока», «Лунинец», «Не обрывается земная связь», «Имя мое — Свобода», «Возвращение рассветной рани...») — трагічныя мо і для самога Рубанава радкі. Трагічныя ў тым сэнсе, што пра зыход пісаць заўсёды балюча і небяспечна. Падпалкоўнік дзяржбяспекі, які скончыў жыццё самагубствам, — факт ужо тым незвычайны, што рэдкі. Няшмат іх, людзей такога рангу, такога сацыяльнага і грамадскага становішча, якія адважыліся б, рашыліся б на падобнае. Як і ўвогуле ў кожнай сацыяльнай нішы грамадства ўвогуле. А вось разам... Сотні, тысячы забойцаў уласнага розуму. Сацыяльная і псіхалагічная загадка часу.

Хто разгадае прыватны выпадак з Калінковічам? Блізкія яму людзі, калегі, медыкі, псіхолагі... Хто разгадае выпадак самазабойства не толькі службоўца (а дакладней — выкладчыка Вышэйшых курсаў КДБ СССР у Тбілісі) дзяржбяспекі, але і пісьменніка, краязнаўца, вучонага? Сярод папер свайго хатняга архіва зноў і зноў вяртаюся да лістоў Міколы Калінковіча. Пісаў ён з розных месцаў — з Масквы, з Беларусі (калі быў тут у адпачынку альбо камандзіроўцы), з Тбілісі... «Атрымаў учора твой ліст. Хацеў пакуль не адказваць — стаміўся, ды і 24-га абмеркаванне на кафедры, трэба рыхтавацца да бойкі...» І далей — з гэтага ж красавіцкага, 1986 года, ліста: «Галава забіта настолькі, што не прадыхнеш. Але клопаты гэтыя прыемныя, творчыя. Акрамя мярзотнай дысертацыі. Будзь мая ўлада — перагледзеў бы пытанне з імі. Столькі тут людзей выпадковых — страх: 85—90 працэнтаў. Абдзіраюць дзяржаву ўвачавідкі. І нічога нікому ад таго, ніякай карысці. Не магу думаць пра гэтых мярзотнікаў і глядзець на іх...» Жорстка? Балюча-пякуча? А чаму б і не павінна быць жорстка, калі бязладдзе, іншая пустэча ўзялі верх, адно і паспеўшы даказаць: нашу ніякасць і нашу нікчэмнасць.

Закраніце многія грамадскія сферы як быццам квітнеючага ў сярэдзіне 1980-х эсэсэсэраўскага жыцця — і няўжо вы не пагодзіцеся, што гэта пра розныя галіны засыхаючага нашага дрэва — яго, Мікалая Калінковіча, праўда: «...Махровая, сволочная бюрократия, гражданские и должностные трусы, увешанные лозунгами и дифирамбами, цветущие мерзавцы, пустота жизни».

Пачаўшы ў самым маладым узросце з пошукаў пра палескі перыяд у жыцці Блока, Калінковіч ніколі не кідаў вялікай блокаўскай тэмы. Глядзіце, хто ідзе! І хто ж?.. Заўсёдная ўвага да Блока. Пасля — Грыбаедаў, Самойла... Фактычна досыць блізкія ментальна асобы. Тыя, хто складзены з парываў-памкненняў. Блок — паэт-празарлівец, які разгубіўся перад наступам часу. Самойла — знаёмец і крытык Блока. Але яшчэ Самойла — духоўны шукальнік, духоўны барацьбіт, публіцыст-асветнік, сапраўдны (ад жыцця, ад рэалій!) філосаф. Мо невыпадковая і назва аднаго з публіцыстычных артыкулаў Самойлы — «Рамантызм і палітыка». А Грыбаедаў... Гэта ж не толькі і не адно «Гора ад розуму». Лёс Грыбаедава — гэта і «драматызм яго грамадзянскага самаадчування». Відавочна, пішучы сваю аповесць (чытачу вядома толькі рэдкая, у абласной газеце, публікацыя яе ўрыўкаў) пра Грыбаедава, Калінковіч якраз і адчуваў такі вось драматызм. А мо і сам, услед за постаццю далёкай (але ж для пісьменніка-даследчыка блізкай, іначай не было б такога выбару ў тэме!), перажываў драматызм грамадзянскага і псіхалагічнага кшталту. Служыць дзяржаве ў адным з найскладанейшых яе інстытутаў і займацца беларускім краязнаўствам, даследаваць душэўныя парывы асоб пякельных (толькі не з кагорты патэнцыяльных герояў для кніжнай серыі «Палымяныя рэвалюцыянеры») — ці не самапярэчанне, кажучы мовай сучаснай — ці не нонсенс?..

Мне здаецца, Мікола Калінковіч, як чуйны архівіст-даследчык, быў досыць празорлівым чалавекам. Роўна дзесяць гадоў таму, ужо нават хутка як адзінаццаць, вярнуўшыся з Берасцейшчыны, ён напіша: «Восем дзён — а ўражанняў мноства. Народ жыве, працуе і не хоча думаць пра будучыню. Не той настрой, што 10—20 гадоў таму. Дэвальвацыя духу працягваецца. Добра, калі памыляюся...» Не памыліўся, на жаль, Мікола. Дэвальвацыя духу працягваецца і сёння.

І гэта, спяшаюся нагадаць, заўважыў чалавек, які перавярнуў у архівах горы папер, каб зразумець, па якіх законах людзі жылі, будавалі грамадства. І таксама чалавек, які з дня ў дзень імкнуўся адрынуць ад сябе ўласцівую любому мундзіру і вынікаючым адсюль наступствам зашоранасць. Што перашкаджала, акрамя немагчымага сумяшчэння двух клопатаў, адзін з якіх была вымушанасць адрабляць за грошы, другому аддаваць усяго сябе, без астатку, у другім клопаце, занятку душа трывала, выхоўвалася, мацнела? Канешне ж, мацнела як форма, бо маса навошта душы, яна заўсёды павінна быць гатовай да палёту... Думаю, перашкаджала, вяло да ўсялякіх там фізічных і эмацыянальных разладаў сапраўды ўсё тое ж абвостранае бачанне жыцця. Як Мікола ненавідзеў прыстасаванцаў — усюды, розных.., ...гоняць у Тбілісі. Было «размеркаванне». Ліпа. Сынкі і мярзотнікі, лізаблюды, блатнікі і іншая дрэнь нікуды не ездзіць. Ніколі. А я ўжо стаміўся і стаміў сям'ю. Але будзем трываць. Амаль два тыдні «напалеоніў» — на ўсю рэшту, што была. А зараз зноў узяў сябе ў рукі і ўзяўся за справу. Але ж на душы ўсё роўна кошкі скрабуць. Не перадаць у пісьме і на словах. Трэба адчуваць... Нікога і бачыць не хочацца. Асабліва штодзённых фарысеяў і крывадушнікаў... Мінск жа запрошваў настойліва... Ды нічога, прарвёмся. Няхай тля падавіцца. Эх, няма на яе Макаёнка, Шукшына і Высоцкага...» Тля не падавілася. Мінску — так вырашылі ў Маскве — беларус Калінковіч, няхай сабе і падпалкоўнік дзяржбяспекі (праўда, тады з Масквы ў Тбілісі ён паехаў яшчэ маёрам), няхай сабе і з аднолькавым для ўсіх чырвоным партбілетам, не быў патрэбен. А што да Высоцкіх, Шукшыных, тым болей да Макаёнкаў, то і яны не на ўсё здатныя. Тым болей, што няма ўжо нікога з іх. Не было, праўда, і тады, калі пісаліся Міколам тыя крыўдныя і іранічныя радкі.

...І яшчэ колькі слоў пра прозвішча Калінковіча. Ізноў жа — яго вуснамі. Спярша — з ліста да мяне: «Перабіраў неяк свае запісы. Архіўныя, за 1974 г. з ЦТИПА БССР. Знайшоў радаслоўную па бацьку і маці — запісы Кажан-Гарадоцкай царквы ад 1858 г. аб нараджэнні продкаў... Прозвішча наша пісалася тады так: Ка-ли-ни-ко-ви-ч... Дэталі. Але немалаважныя». А гэта — з афіцыйна-творчай аўтабіяграфіі (дазвольце ў нечым паўтарыцца): «...относительно написания фамилии. В документах она значится у меня «Каленкович» (паспорт) В литер. документах — Калинкович. Пытался разобраться... Поднял «книги» Кожан-Городокской церкви — XIX столетие. Установил, что фамилия моих предков писалась «Калиникович», сам слышал легенду, расшифровывающую ее: «нарадзіўся калісьці на Міколу чалавек» — Калініковіч. ...Шло время, менялись писаря, писали «Ко» и «Ка», «ле» и «ли», по-разному. Разве теперь установишь — как было, как правильно. Мне нравится — Калинкович, вот так и пишу. Пусть будет «калісьці на Міколу». Родился я действительно, по-религиозному, «на зимнего Николу». Отсюда — и имя. Долго судили-рядили мои бабки Пелагея (мать отца) и Ксения (мать матери) — как назвать. Предлагали Федор, Кузьма... Да вспомнили, что через день Никола. А бабка Поля — набожная. Земля ей пухом! Вот и не обидела внучка нареченным славянским именем...»

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

***Ніл ГІЛЕВІЧ***

# Роздумы, рэплікі, згадкі

**(Са сшыткаў розных гадоў)**

### МОЖА БЫЦЬ, НА СВАЁ НЯШЧАСЦЕ, АЛЕ...

Мае былыя выбаршчыкі, магчыма, помняць: на ўсіх сустрэчах з імі я гаварыў, што больш прывабнай, больш заманлівай мадэлі грамадскага ладу жыцця, чым сацыялізм, чалавецтва не прыдумала. Іншая рэч — як ажыццявіць пабудову сацыялістычнага грамадства. Навуковае абгрунтаванне гэтага ладу практыкаю пакуль што не пацверджана. Не лічыць жа сацыялізмам лад, у якім мы жылі пры Сталіне і колькі дзесяцігоддзяў пасля яго. Як правільна вызначыць і назваць той лад — адзінае думкі ў вучоных да гэтага часу няма. Мне здаюцца прымальнымі азначэнні, у якіх ёсць слова «феадальны», ці «казарменны», ці «паліцэйскі», ці «турэмна-лагерны». Адным словам, не сапраўдны, а — перакрыўлены, звыродлівы, пачварны.

Кожны дзень і чытаю і чую: «Трэба як мага хутчэй выбрацца з сацыялізму! Бо інакш мы ніколі не станем жыць па-людску». І кожны раз мне хочацца ў адказ на гэта спытаць: «Прабачце, з якога сацыялізму выбірацца? У нас быў сацыялізм? Дзе вы яго бачылі? Можа, у той вёсцы, дзе абібок, п'яніца і злодзей у адной асобе ўзяў верх, а працавіты, сумленны, культурны гаспадар паехаў у Котлас, у Сібір, у тундру — гінуць, праклінаючы той дзень, калі на свет нарадзіўся? Было толькі сёе-тое ад сацыялізму: напрыклад, цяга простых людзей да адукацыі, да культуры, да свету мастацтва, да кнігі, да жыцця па законах сумлення... Падкрэсліваю: **простых людзей.** Але ж пад гэтым «сёе-тое» не аказалася неабходнага эканамічнага грунту. Эканоміка ўсё больш заходзіла ў тупік — і хаваць гэта далей ужо стала немагчыма. І для ўсяго, чым жыла душа простага чалавека, для веры, якою яна трымалася, таксама наблізілася пагроза поўнага краху. І тады ў Крамлі прабілі куранты: прыйшла пара сур'ёзна-сур'ёзна задумацца. Задумацца, аднак, не захацелі. І пайшлі шляхам самым лёгкім, самым вульгарным, самым цынічным. Шляхам дзікага рынку, шляхам зладзюганскага, карупцыйнага, мафіёзнага капіталізму.

Насуперак таму, што атакі на саму ідэю сацыялізму не канчаюцца, асабіста я па-ранейшаму вызнаю ідэалы сацыялістычнага грамадства і не сумняваюся ў іх перавагах. Асабліва цяпер, сёння, калі сваімі вачыма бачу, які «капіталізм» у нас усталёўваецца, якая «рыначная эканоміка» дыктуе законы, у якім становішчы апынуліся сумленныя, сціплыя, культурныя, маральна выхаваныя людзі, і як за іх кошт (а іх мільёны) нажываюцца і ператвараюцца ў ненажэрных захрыбетнікаў хцівыя, нахабныя, цынічныя тыпы (а іх усяго сотні, ну тысячы). Тыпы — крайне несімпатычныя мне па прычыне іх нечуванага нахабства і цынізму. І ніколі ніхто мяне не пераканае, што ў іх, у гэтых «новых гаспадароў жыцця», было маральнае права заграбці сабе тое, што належала ўсяму народу — мільёнам сумленных, сціплых, працавітых людзей. Людзей — з Богам у душы.

Між іншым, неадольнае пачуццё агіды і непрыязні да падобных тыпаў выхавала ў мяне з дзяцінства мастацкая літаратура Заходняй Еўропы, вялікія пісьменнікі-рэалісты XIX—пачатку XX стагоддзя. Гэта яны адкрылі мне вочы на тое, які страшны, жорсткі і злачынны свет, дзе гаспадаром усяго і ўся ёсць «его препохабие капитал». Паказалі з вялікай мастакоўскай мужнасцю, з гранічнай праўдзівасцю. А яны то ўжо гэты свет і яго воўчыя законы ведалі дасканала. Не па чутках і не па нейчых уражаннях. Ім не паверыць я не мог. Пазней маё ўяўленне пра хвалёны «капіталістычны рай» значна ўзбагацілі і паглыбілі рэалістычныя заходнееўрапейскія кінафільмы і галівудскія «баевікі». Жыць у тым свеце, як бы хто туды ні рваўся, я не тое што не хачу — я не змагу, ён нясцерпна агідны для мяне, я не вытрываю побыту, дзе літаральна ўсё вымяраецца «жоўтым д'яблам».

Вось і думаю: як жа быць і што рабіць? Дзе шукаць выйсце са становішча? Вяртацца назад, у той «сацыялізм», у якім чалавек быў бяспраўнай казяўкай, у якім задыхалася апошнім дыханнем беларушчына — наша родная мова і культура? Пра гэта не можа быць і гаворкі. Ну, а чаго варты чалавек у гэтым «рыначным» свеце, — чалавек, які шукае на сметніку харч, каб утаймаваць голад? Чалавек, роднай мове якога перацінаюць дыханне яшчэ больш жорстка і бязлітасна, чым гэта рабілі раней бальшавікі?.. Тое, што адбываецца сёння ў нас, а тым больш — у Расіі, нічога, апрача агіды і страху, не абуджае. У які ж бок глядзець? На што арыентавацца?

Былі б мы гаспадарамі на сваёй зямлі — напэўна, разгледзеліся б, спакойна ўзважылі б усё належным чынам і, канешне ж, зарыентаваліся б. Думаю, што — на сацыялізм. На такі эканамічна-сацыяльны і дзяржаўны лад, у якім, на радасць сумленным людзям, панавалі б рацыянальны, дэмакратычны, чалавечы Закон і Культура. Культура як антыпод хцівасці, крывадушша, хамства, невуцтва, пошласці, цынізму. Культура як вышэйшая мера Чалавечнасці. Найбліжэйшым сінонімам паняцця Сацыялізм для мяне было і ёсць іменна гэта паняцце — Культура. Можа быць, што на сваё няшчасце, але я іменна так зразумеў яшчэ ў маладыя гады ідэю сацыялізму. І хіба толькі адзін я? Хіба мільёны маіх суайчыннікаў разумелі інакш?

*1996*

### «ШАРАЧОК» У СІСТЭМЕ

Вучыўся ў школе слабачок-шарачок на троечкі. Ды і то з нацяжкай. Але ён, пры ўсёй прыроднай шэрасці, быў хітрачок, дакладней — хітрачок-падлючок, і менавіта таму, у адрозненне ад большыні аднакласнікаў, паступіў у інстытут на вучобу. У інстытуце слабачок-шарачок таксама цягнуўся ўсе гады на троечках, але паколькі ён быў і хітрачок-падлючок — у вёску на працу, атрымаўшы дыплом, не паехаў, а пралез у міністэрства, на пасаду чыноўнага кручка, стаў начальнічкам і стаў правяраць-кантраляваць працоўную дзейнасць тых былых аднакурснікаў, якія вучыліся выдатна і, будучы сумленнымі, няхітрымі і няподлымі, «уладкаваліся» на працу ў самай-самай глыбінцы...

Колькі мы ведалі і ведаем такіх шарачкоў-хітрачкоў, колькі абураліся іх спрытам і нават пляваліся ў злосці! І прыходзілі да высновы, што калі слабачкі-шарачкі пралазяць у начальнікі (на шкоду ўсяму грамадству, народу, дзяржаве), то ва ўсім гэтым вінавата сама дзяржаўная сістэма. Інакш, казалі мы сабе, усё гэта было б немагчыма... Дык што? — будзем вяртацца ў тую дзяржаўную сістэму, у той грамадска-палітычны лад, дзе з нас, мільёнаў сумленных людзей, здзекаваліся шарачкі-хітрачкі? І будзем яшчэ дзесяцігоддзямі абурацца і пляваць, гэта значыць трымаць фігу ў кішэні? Ці зробім саму «сістэму» такой, у якой чалавек будзе займаць месца адпаведна яго розуму, таленту і працавітасці?

*1996*

### У ЧАСЫ, КАЛІ КАЎБАСА БЫЛА ТАННАЯ...

Многія сёння ўжо немаладыя гараджане са шкадаваннем успамінаюць часы, калі «пры ўсім пры тым, а жылося няблага», калі «каўбаса была такая танная, што за рубля, бывала, цэлае колца на вячэру прыносіш». І, вядома ж, выказваюць рэзкую незадаволенасць сваім сённяшнім становішчам. І, вядома ж, не згадваюць, а як у тыя часы, калі «каўбаса была танная», жыла беларуская вёска, з працы якой народ карміўся. Вёска, якую яны, гараджане, у свой час пакінулі, ці дакладней — з якое ўцяклі. А трэба было б абавязкова помніць гэта: як жыў у сталінскія і паслясталінскія часы вясковы чалавек — «земляроб» і «хлебароб» на плакатах, а ў рэальнасці — «каўхознік» і «саўхознік», «дзяроўня». Які быў ягоны лёс у царстве бальшавіцкага сацыялізму? Асабліва калі гэтым чалавекам была салдацкая ці партызанская ўдава, не кажучы ўжо — удава «ворага народа», замучанага на Калыме ці расстралянага ў Курапатах.

«Ляксандравіч, не губі мяне з дзеткамі, дай коніка бульбачку абагнаць (сена ці дроў прывезці, малое завезці ў бальніцу). Ляксандравіч, дай даведачку маёй Марыльцы, што адпускаеш з каўгаса ў горад, прападзе ж яна тут, у вёсцы, у гэтай нэндзы і запусцеласці. А ёй жа, маладой, жыцця хочацца, бо яна ж яго так і не пабачыць тут, як я не пабачыла...» — «Каня хай табе дасць той, каго ты хваліла на сходзе. А сваю кабылу-дачку бяры да сябе на ферму. Горад і без яе абыдзецца!..»

Вось так было тым часам у беларускай вёсцы — скрозь і ўсюды. За выняткам, вядома, тых «маякоў» і «ўзорных перадавых гаспадарак», пра якія пастаянна пісалі ў газетах і куды вазілі, мінаючы прастory галадраніі, замежных гасцей.

*1996*

## БЕЛАРУСКІ КУЛЬТУРНА-АСВЕТНІЦКІ КАЛЯНДАР

**17 лютага**

40 гадоў з дня адкрыцця (1958) **новага будынка Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі** ў Мінску.

70 гадоў з дня нараджэння (1928) **У. М. Дамашэвіча,** пісьменніка, культурна-грамадскага дзеяча адраджэння.

* * *

Я магу быць нязгодным з вашай думкай, але я аддам жыццё за ваша права выказваць яе.

**Ф. ВАЛЬТЭР** *(1694—1778),*
**французскі пісьменнік, філосаф, гісторык.**

**На сённяшні дзень мы па-ранейшаму працягваем жыць і будаваць свае сем'і па закону, прынятаму яшчэ Вярхоўным Саветам БССР у 1968 годзе. Новы ж праект ужо некалькі разоў адхіляўся дэпутатамі Нацыянальнага сходу рэспублікі. Адной з падстаў для спрэчкі стала мяркуемая працэдура скасавання шлюбу. Менавіта гэта балючае пытанне і стала тэмай нашай гаворкі з загадчыцай ЗАГСа Маскоўскага раёна сталіцы Наталляй БАРАНАВАЙ.**

# Не толькі жыць у сям'і, але і ЎСТУПАЦЬ І СКАСОЎВАЦЬ ШЛЮБ ТРЭБА ЦЫВІЛІЗАВАНА

— СТАРЫ КОДЭКС аб шлюбе і сям'і, па якім мы жывём ужо шмат гадоў, утрымлівае дзве нормы: пры адсутнасці ў мужа і жонкі непаўналетніх дзяцей і маёмасных прэтэнзій яны скасоўваюць свой шлюб праз органы ЗАГСаў, ва ўсіх жа астатніх выпадках яны адпраўляюцца ў суд. У другім выпадку працэдура скасавання шлюбу, зразумела, больш марудная, паколькі пры разглядзе справы суддзя абавязаны прымаць меры да прымірэння мужа і жонкі. Калі ж яны звяртаюцца ў ЗАГС, іх шлюб скасоўваецца выключна па фармальных падставах. І мы нават не маем права высвятляць абставіны распаду сям'і і паўплываць на жаданне мужа і жонкі развесціся. Праект новага кодэкса прадугледжвае значнае ўскладненне працэдуры скасавання шлюбу. Так, калі ён усё ж будзе прыняты, то ва ўсіх без выключэння выпадках скасаванне будзе ажыццяўляцца толькі ў судовым парадку.

**— А які ў такім выпадку лёс чакае пасведчанні аб скасаванні шлюбу, якія выдаюцца органамі ЗАГСа?**

— Вы закранулі найбольш актуальнае для нас, работнікаў ЗАГСаў, пытанне. Справа ў тым, што з сённяшнім парадкам, калі людзі вымушаны праходзіць непрыемную працэдуру скасавання шлюбу спачатку ў судзе, а затым яшчэ паўторна перажываць яе ў ЗАГСе, мы пагадзіцца не можам. Заўважу, што зараз я гавару ад імя ўсіх загадчыц сталічных ЗАГСаў.

У нашых грамадзян існуе некалькі памылковых думак. Папершае, многія з іх лічаць, што скасаванне шлюбу заканчваецца менавіта судовым разборам, і далёка не кожны з іх прачытае выпіску з рашэння суда да канца. Такім чынам, фраза «шлюб лічыцца скасаваным з дня рэгістрацыі ў органах ЗАГСа» застаецца без увагі. У нас нярэдкія выпадкі, калі два чалавекі прыходзяць да нас з мэтай стварэння новай сям'і і толькі тут раптам высвятляецца, што адзін з іх... несвабодны. У судзе яго шлюб скасавалі 5—10 гадоў таму, але фармальна ён лічыцца сямейным чалавекам, бо ў свой час не звярнуўся адразу пасля суда ў ЗАГС за пасведчаннем аб скасаванні шлюбу.

Па-другое, людзі ўпэўненыя, што, каб атрымаць доўгачаканы штамп у пашпарце, дастаткова хвіліны, і яны нават не падазраюць, што ў чарзе можна правесці 3-4 гадзіны. Для таго, каб грамадзянін атрымаў звычайнае пасведчанне аб скасаванні шлюбу, інспектару даводзіцца запаўняць 5 (!) розных бланкаў, рабіць запісы ў некалькіх журналах, заносіць інфармацыю ў камп'ютэр. Звычайна на гэта патрэбна ад 20 хвілін і больш. Нервуюцца ў чэргах людзі — нервуемся і мы.

Менавіта таму ў новы кодэкс распрацоўшчыкамі было ўнесена палажэнне, згодна з якім шлюб лічыцца скасаваным з моманту ўступлення рашэння суда ў законную сілу. У выпадку, калі яно пройдзе праз наш парламент, разведзеныя людзі будуць атрымліваць штамп аб скасаванні шлюбу непасрэдна ў судзе, а пасведчанні застануцца ў мінулым. Неабходная ж інфармацыя будзе накіроўвацца ў ЗАГСы самімі судамі.

**— Але ўсім вядома загружанасць судоў...**

— Добра, але хто падумае аб простым чалавеку? У рэшце рэшт, для таго, каб ставіць у пашпарты штампы, патрабуецца ўсяго адзін юрыст, а беспрацоўных юрыстаў у краіне сёння — вялікая колькасць. Я ўпэўненая, што кожны чалавек палічыць за лепшае заплаціць на месцы дзяржпошліны на некалькі тысяч больш, чым зноў паўтараць гэтую працэдуру ў ЗАГСе. Такім чынам будзе вырашана пытанне з аплатай працы юрыстаў. Але ёсць і яшчэ адзін важны момант: даўно трэба было эканамістам падлічыць, у якую суму выліваецца дзяржаве сённяшняя сістэма скасавання шлюбаў. Лічыце: кожны бланк каштуе грошай. Да таго ж звесткі аб другой палавіне (мужу ці жонцы) запаўняюцца са слоў першага, а гэта значыць, што пры выяўленні самай маленькай памылкі, уся дакументацыя зноў перапісваецца. Пэўную суму трэба выкладжыць і за пасведчанне. Для ўстаноўкі камп'ютэраў зноў-такі патрабуюцца грошы. А між тым у судзе ўсе звесткі таксама заносяцца ў камп'ютэр. Такім чынам выходзіць, што мы проста дубліруем яго дзеянні. І, канешне ж, каб звярнуцца да нас за штампам, чалавек вымушаны ў працоўны час «зрывацца» з работы.

**— Цікава было б даведацца, а як разводзяцца ў цывілізаваных краінах свету?**

— У ЗША, Францыі, Вялікабрытаніі, Бельгіі, ФРГ, Італіі, Ізраілі, Чэхіі, Балгарыі, Аўстраліі, Аўстрыі, Грэцыі, Іспаніі, Нідэрландах, Нарвегіі, Латвіі (я магу бясконца працягваць гэты спіс) канчатковую сілу пры скасаванні шлюбаў мае менавіта рашэнне суда, і пры гэтым не патрабуецца аніякіх дадатковых рэгістрацый і дакументаў.

**— Наталля Мікалаеўна, прабачце, але ў тым, што робіцца, па вашых словах, дзеля людзей, я бачу і іншы бок медаля: ці не імкнецца дзяржава, зачыніўшы перад жадаючымі скасаваць свой шлюб дзверы ЗАГСаў, такім чынам штучна ўмацаваць беларускую сям'ю? Бо, вядома ж, у судзе распад сям'і будуць адцягваць...**

— Каму, як не нам, работнікам ЗАГСаў, лепш вядома, што каханне і нянавісць заўсёды ходзяць разам. Але ў апошнія гады прыходзіцца канстатаваць, што колькасць скасаваных шлюбаў значна павялічылася. Напрыклад, у нашым раёне ў 1997 годзе было зарэгістравана 1160 шлюбаў. У той жа час распалася 1014 сем'яў. Практычна на кожны шлюб прыпала адно скасаванне. І мы цалкам дапускаем магчымасць далейшага пагаршэння сітуацыі. Але нягледзячы на гэта я лічу, што ніякія спробы захаваць сям'ю любой цаной не дадуць плёну. У нас ужо быў сумны вопыт савецкіх гадоў, калі пры ЗАГСах ствараліся грамадскія нарады па прафілактыцы, у якія ўваходзілі педагогі, работнікі судоў і прафсаюзныя лідэры. Калі чалавек цвёрда вырашыў пайсці з сям'і, яго ўжо ніякі суд у ёй не ўтрымае.

На маю думку, да жадаючых развесціся ў судзе павінен быць дыферэнцыраваны падыход. Калі ў мужа і жонкі ёсць адзін да аднаго прэтэнзіі, для вырашэння іх справы, безумоўна, патрабуецца час. Але калі паміж жонкай і мужам заключаны шлюбны кантракт, увядзенне якога, дарэчы, плануецца новым кодэксам, працэдура скасавання шлюбу павінна быць спрошчанай.

**Гутарку вяла Надзея НІКАЛАЕВА.**

***P.S.*** *Пасля інтэрв'ю мы з Наталляй Мікалаеўнай правялі міні-апытанне сярод людзей, якія чакалі сваёй чаргі перад зачыненымі дзвярыма. З яго можна зрабіць вывад: па-першае, нікому з простых грамадзян аб плануемых зменах у Кодэксе аб шлюбе і сям'і невядома; па-другое, усіх іх задаволіла б значнае спрашчэнне атрымання штампаў аб скасаванні шлюбу.*

## Дзякуем, шаноўныя, за павагу і працу

**Падведзены вынікі конкурсу сярод паштальёнаў рэспублікі па выніках падпіскі на «Звязду», якія праводзіла рэдакцыя. Пераможцамі сталі:**

| Паштовае аддзяленне | Колькасць падпісчыкаў «Звязды» | Прозвішча начальніка аддзялення |
|---|---|---|
| **Віцебская вобласць** | | |
| Сітцы | 114 | Чарапачэвіч Н. В. |
| *Докшыцкі раён* | | |
| Корабы | 68 | Пракапёнак Я.І. |
| *Глыбоцкі раён* | | |
| Навадруцк | 57 | Зямчонак Л. П. |
| *Пастаўскі раён* | | |
| **Брэсцкая вобласць** | | |
| Аддзяленне сувязі № 2 | 170 | Берташ Н. Г. |
| *Ганцавічы* | | |
| Ураджайнае | 79 | Ціцікша Л. С. |
| *Ляхавіцкі раён* | | |
| Аддзяленне сувязі № 3 | 74 | Калодзіч В. К. |
| *Іванава* | | |
| **Магілёўская вобласць** | | |
| Слаўкавічы | 70 | Мурачкоўская С. У. |
| *Глускі раён* | | |
| Міхалёва | 47 | Белавус Л. П. |
| *Бабруйскі раён* | | |
| Вязаўніца | 43 | Юзіна В. Д. |
| *Асіповіцкі раён* | | |
| **г. Мінск** | | |
| Аддзяленне сувязі № 50 | 126 | Туміловіч Л. М. |
| Аддзяленне сувязі № 13 | 72 | Часнова Л. А. |
| Аддзяленне сувязі № 94 | 50 | Чыгірына М. Я. |
| **Гомельская вобласць** | | |
| Аддзяленне сувязі № 7 | 131 | Цэбменка В. А. |
| *Мазыр* | | |
| Аддзяленне сувязі № 1 | 92 | Купрыянчык А. С. |
| *Лоеў* | | |
| Прыбалавічы | 33 | Санчукоўская І. І. |
| *Лельчыцкі раён* | | |
| **Гродзенская вобласць** | | |
| Любча | 287 | Грынь В. Г. |
| *Навагрудскі раён* | | |
| Палужжа | 98 | Слаута Т. С. |
| *Карэліцкі раён* | | |
| Вензавец | 85 | Мармыш М. Ю. |
| *Дзятлаўскі раён* | | |
| **Мінская вобласць** | | |
| Аддзяленне сувязі № 1 | 494 | Стасіловіч Т. В. |
| *г. Валожын* | | |
| Дзераўное | 209 | Калошыч В. І. |
| *Стаўбцоўскі раён* | | |
| Палачаны | 111 | Харашэвіч Т. В. |
| *Маладзечанскі раён* | | |

Рэдакцыя дзякуе ўсім паштальёнам і работнікам «Белсаюздруку», якія вялі і вядуць падпіску на нашу газету. Згодна з аб'яўленымі ўмовамі ўсе азначаныя паштовыя аддзяленні атрымліваюць заахвочванне ад рэдакцыі ў памеры аднаго мільёна рублёў. Грошы рэдакцыя пералічвае на рахункі раённых вузлоў сувязі з абавязковым указаннем іх мэтавага прызначэння. Мы лічым, што той паштальён, у якога ў межах паштовага аддзялення найвышэйшы паказчык падпіскі на нашу газету, павінен атрымаць ад нашай прэміі найбольшую суму.

Звяртаем увагу на тое, што лічбы колькасці падпіскі дадзены нам абласнымі ўпраўленнямі паштовай сувязі, умовы конкурсу сярод паштальёнаў захоўваюцца і на наступны падпісны перыяд (другая палова 1998 года).

*Выязная прыёмная «Звязды»*

## Зянон ЛОМАЦЬ:
# «Чалавек павінен атрымаць такую падтрымку, якую ён сапраўды заслугоўвае»

***Трэба сказаць адразу, што па ўсіх, як кажуць, паказчыках Слуцкі раён на Міншчыне далёка не апошні. Аднак на гэты раз мы вырашылі адысці ад «традыцыйнай» статыстыкі. Найперш цікавіла іншае: як пачувае сябе тут просты чалавек, на што ён можа разлічваць сёння або, прынамсі, спадзявацца заўтра?***

***Між тым без па-сапраўднаму «вострых» пытанняў, на жаль, не абышлося. Каб паспрабаваць знайсці адказы хаця б на некаторыя з іх, пасля правядзення «выязной рэдакцыі» карэспандэнт газеты звярнуўся да старшыні Слуцкага райвыканкама Зянона ЛОМАЦЯ.***

**— З часу правядзення «выязной прыёмнай» мінуў тыдзень. Як быццам можна даваць некаторыя ацэнкі...**

— Калі шчыра, я не думаў, што на прыём да журналістаў «Звязды» можа прыйсці столькі людзей. Здавалася б, кіраўніцтва раёна заўсёды імкнулася падтрымліваць шчыльную сувязь з насельніцтвам — гаворка аб тых жа рэгулярных прыёмах грамадзян на месцах, «прамых лініях», днях выканкама... Але, мяркуючы па ўсім, пытанні ўсё роўна засталіся, і дзякуючы сустрэчам «Звязды» зараз мы больш дакладна ведаем, якія праблемы існуюць у раёне.

Дарэчы, можна казаць ужо і аб пэўных выніках «выязной прыёмнай». Пасля яе правядзення мы прыйшлі да высновы, што трэба ўзяць пад асаблівы кантроль былы райцэнтр Грэск. Сёння створана спецыяльная камісія, якая адпрацоўвае праграму добраўпарадкавання і сацыяльнага развіцця гэтага пасёлка да 2000 года. Зыходзілі перш-наперш з таго, што зараз у Грэску ёсць шмат па сутнасці закінутых будынкаў, якія не павінны пуставаць, і, скажам, ёсць намер пераабсталяваць адну з мясцовых сталовых у маладзёжнае кафэ з дыскатэкай, памяшканні старой бальніцы выкарыстаць для пашырэння школьнага інтэрната і г. д. Словам, з цягам часу пэўныя праблемы пасёлка павінны знікнуць.

**— Тым не менш, праблем і ў Грэску, і ў іншых вёсках раёна даволі шмат. Адна з іх, як падалося падчас сустрэч, — своеасаблівы падзел людзей на «нашых» (г. зн. людзей, што працавалі ці працуюць у калгасах) і «не нашых». Адпаведна, для адных ёсць прывілеі ў апрацоўцы прысядзібных участкаў, для другіх — не...**

— Калі раней нейкіх жорсткіх патрабаванняў не было, то зараз будзе толькі такі падыход: тая частка насельніцтва, якая стала пражывае ў сельскай мясцовасці, мае ўласныя сядзібы і займаецца абслугоўваннем жыхароў вёскі (а гэта настаўнікі, урачы, работнікі крам), павінна валодаць тымі ж ільготамі, што і самі калгаснікі. Гэта, пагадзіцеся, правільна. Што да людзей, якія жывуць на вёсцы, але працуюць на прадпрыемствах горада Слуцка, тут пытанне — дапамагаць або не — залежыць ад рашэння праўлення калгаса. Як правіла, рашэнне гэта наступнае: дапамагаць трэба, але і плаціць за гэту дапамогу таксама трэба болей.

**— Аб тых жа прысядзібных гаспадарках — на сустрэчы прыходзілі людзі і прасілі дапамагчы павялічыць іх участкі. Гэта магчыма?**

— У кожным сельсавеце па-рознаму, але ў абсалютнай большасці выпадкаў пайсці на пашырэнне прысядзібных гаспадарак можна. Пытанне толькі ў тым, ці здолее грамадзянін апрацаваць гэтую зямлю, бо разлічваць на калгасы тут не варта — калгасы проста не маюць такіх магчымасцяў. Таму можна зразумець некаторыя гаспадаркі, якія зараз бяруцца апрацоўваць толькі пэўную колькасць сотак, астатнія ж соткі павінен апрацоўваць сам гаспадар. Паверце, падобныя абмежаванні не ад добрага жыцця.

**— Значная частка ўсіх прапаноў і скаргаў жыхароў Случчыны датычылася прыгараднага транспарту. Ці ёсць надзеі, прынамсі, на нейкія зрухі?**

— Даводзіцца канстатаваць, што прыгарадныя перавозкі зараз з'яўляюцца стратнымі, і летась на іх дацыраванне пайшло каля 7 млрд. рублёў раённага бюджэту. Адсюль і даволі вялікія праблемы.

Разам з тым раёну ўдалося захаваць большасць маршрутаў і зыходзячы з нарматываў (паводле іх лічыцца, што вёска мае транспартную сувязь тады, калі адлегласць ад яе да бліжэйшага прыпынку не перавышае 3 кіламетраў), раён ахоплены аўтобуснымі маршрутамі амаль цалкам. Нельга таксама абысці ўвагай тую акалічнасць, што летась упершыню за апошнія сем гадоў мы здолелі набыць тры аўтобусы — такім чынам, можна казаць ужо і аб нейкіх перспектывах, прычым не такіх далёкіх.

**— Гандлёвая сетка раёна як быццам не самая горшая. І тым не менш, як сцвярджалі людзі ў тым жа Грэску, бывае, што хлеб у пасёлак завозяць падвечар. Чаму?**

— Сапраўды, зрывы графіка завозу здараюцца, бо адзін раз «падвядзе» састарэлы транспарт, другі — і сам хлебазавод. Але мы ведаем аб гэтай праблеме і пастараемся яе вырашыць.

**— Аб тым, што сёння складанасці з жыллём ёсць паўсюль, нікому казаць не трэба. Случчына не стала тут выключэннем — зараз у чэргах па раёну стаіць каля пяці сотэнь сем'яў...**

— Як бы цяжка ні было, жыллё на вёсцы будуецца, і ў 1997 годзе мы здалі 92 кватэры. Далей планы больш маштабныя. Так, сёлета (незалежна ад таго, ёсць грошы ці іх няма) вызначана, што літаральна кожная гаспадарка павінна здаць як мінімум па тры кватэры і пачаць будаўніцтва яшчэ пяці. У 1999-м гаспадаркамі будзе здадзена па пяць кватэр і пачата будаўніцтва наступных васьмі.

**— Дарэчы, якія ўвогуле перспектывы?**

— Зрухі ўжо акрэсліліся. Апошнім часам у раёне аднаўляюць працу комплексныя-прыемныя пункты, якія аказваюць бытавыя паслугі насельніцтву, нямала зроблена ў гандлі. Але вырашэнне сацыяльных праблем у рэшце рэшт будзе залежаць ад таго, як будуць вырашацца праблемы эканомікі. Сёння ж, калі раён толькі зноў пачынае станавіцца на ногі, відаць, галоўнае для нас — захаваць той самы прынцып сацыяльнай справядлівасці. Або, інакш кажучы, кожны жыхар Случчыны павінен атрымаць такую падтрымку, якую ён сапраўды заслугоўвае.

**Гутарыў Сяргей ГРЫБ.**

*Усмешка мастака*



Малюнкі Аркадзя САЛТЫКОВА.

**СЁННЯ**

**МЕСЯЦ**

**Апошняя квадра 19 лютага**
**20-я месяцавыя суткі:**
**З 6.14 Месяц — у сузор'і Скарпіёна**

**ІМЯНІНЫ**

**Пр. Георгія (Юрыя), Кірыла**
**К. Аляксея, Збігнева**

**НАДВОР'Е**

Сёння ўдзень па рэспубліцы захаваецца воблачнае з праясненнямі надвор'е, часам снег, месцамі мяцеліца, на дарогах галалёдзіца. Тэмпература паветра ў Віцебску — 8—10, Магілёве — 6—8, Мінску — 5—7, Гродне — 4—6, Брэсце — 1—3, Гомелі — 0—2 градусы марозу.

У наступныя двое сутак: 18-га ўначы пераважна без ападкаў, удзень — па захаду снег, на дарогах галалёдзіца; 19-га часам невялікія ападкі. Тэмпература 18-га ўначы — 15—20, па паўночнаму ўсходу пры праясненнях да 26, удзень — 8—13, па захаду — 2—7 градусаў марозу; 19-га ўначы — 0—мінус 5, удзень — 0—плюс 5.

# КІРМАШ



## ШТОТЫДНЁВЫ РЭКЛАМНЫ ВЫПУСК

№ 6 (124)









**Наталля Іванаўна ВАЛЫНЕЦ (ПАЎЛЮЧЫК)** просіць адазвацца былых аднакласнікаў, выпускнікоў 1968 г. Дзівінскай школы-інтэрната, для арганізацыі сустрэчы.

***Адрас:*** *225876.*
*с. Дзівін Брэсцкай вобл.,*
*вул. Серадовіча, 23/10,*
*тэл. 6-88-62.*

## Віншаванні

***Сардэчныя пажаданні шчасця і радасці, здароўя і дабрабыту, поспехаў у справах і ў жыцці з нагоды дня нараджэння жадаюць:***

**Аляксандру Аляксеевічу КАЗАКУ** — Кірэевы з Калінкавіцкага раёна; **Генадзію Іванавічу СТРУКАВУ** з г. Віцебска — дзеці і ўнукі з в. Янавічы Клецкага раёна; **Леаніду ЛАШУКУ** з в. Савічы — сяброўка Лілія; **Алегу Васільевічу ЛАПАЦІНУ** — дзядуля і бабуля з г. Магілёва; **Валянціне Анатольеўне МІРОНЧЫК** — Лёня, Дзіма, Вольга, г. Мінск; любай унучцы **Вераніцы БАРТАШ** з г. Шчучына — бабуля Галя; дарагой **Таццяне Барысаўне СУПРАНОВІЧ** — мама, муж, дзеці, брат, г. Стоўбцы; любімай мамачцы **Валянціне Мікалаеўне СЯРЖАН** з в. Лясец Калінкавіцкага раёна — дзеці; дарагой матулі і бабулі **Марыі Васільеўне МАРОЗ** — дзеці, унукі з в. Знаменка Лагойскага р-на.

*Віншуем з днём нараджэння любых бацькоў* ***Артура Райнольдавіча і Іду Аляксандраўну ГІНКЕЛЬМАНАЎ****. Здароўя, шчасця і дабрабыту вам. Дзякуй вам за ўсё.*

**7 дачок і 7 зяцёў, 2 сыны і 2 нявесткі, 21 унук**, *в. Крукавічы Калінкавіцкага раёна.*

*Шчыра віншуем з 70-годдзем з дня нараджэння дарагога* ***Анатолія Іванавіча ЖУКА*** *з в. Балотчыцы Слуцкага раёна. Жадаем моцнага здароўя, шчасця і радасці ў жыцці.*

**Маці, жонка, дзеці, унукі, родныя.**

*Віншуем з 70-годдзем дарагога татачку* ***Ігара Герасімавіча ДАВІДОВІЧА.*** *Жадаем здароўя, бадзёрасці, шчасця і радасці ў жыцці.*

**Цалуем, дзеці, унукі,** *в. Брадок.*



***Государственное предприятие «Белорусский межбанковский расчетный центр» приглашает принять участие в тендере на закупку «Дополнительной памяти для подсистемы RAMAC2»***

ПАКЕТ ТЕНДЕРНЫХ ДОКУМЕНТОВ МОЖНО ПОЛУЧИТЬ ПО АДРЕСУ: Г. МИНСК, УЛ. КАЛЬВАРИЙСКАЯ, 7, КОМ. 605.

*Просим доставить ответ, оформленный в виде коммерческого предложения, информации о фирмах-производителях и проект контракта в запечатанном виде Вашим курьером в срок до 3 марта 1998 г. по вышеуказанному адресу.*

*Предложения и дополнительные материалы, поступившие после указанного срока, к рассмотрению не принимаются.*

*Коммерческое предложение должно обеспечить выполнение условий, изложенных в тендерных документах.*

НАЛИЧИЕ НЕОБХОДИМЫХ ЛИЦЕНЗИЙ И СЕРТИФИКАТОВ ОБЯЗАТЕЛЬНО.

**Справки можно получить по телефонам:** **223-91-66; 210-42-82.**

## ПРАДАЕЦЦА

❑ новы трактар МТЗ-82УК, 80 м; МТЗ і Т16 б/к.
Тэл. (8-017) 251-06-48.

❑ лыжы з чаравікамі.
Тэл. 251-18-34.

❑ кацёл ацяпляльны «Мінск» на цвёрдым і газавым паліве.
Тэл. (8-017) 251-18-34.

❑ дом з г/пабудовамі, уч. 40 сотак у в. Кватары Бераставіцкага раёна.
Тэл. (8-0152) 44-54-19.

❑ фотаапарат «Чайка» няспраўны ў в. Кашчэлічы Валожынскага раёна, Дурко Н.В.

❑ электрастанцыя 1 кВт, з/мост «ВАЗ-2101».
Тэл. (8-272) 5-25-54, пасля 17.

❑ а/м «Фальксваген» 1976 г.в., бензін, у выдатным стане, танна.
Тэл. у в. Ракаў (8-272) 5-22-31.

❑ дом у Нясвіжскім раёне, маецца прыродны газ, уч. 25 сотак — 4500 у.а.
Тэл. 5-83-07.

❑ дом пад знос (алюмініевы дах) у в. Рачаняты, Валожынскага раёна (д. 28) Бядзінская А.В.

❑ бензапіла шведская.
Тэл. у Мінску (8-22) 57-06-88.

❑ магнітафоны: «Вега МП-122С», «Санда-207» з узмацняльнікам і інш., «Гарызонт» 61ТЦ-421Д.
Тэл. у Маладзечне 2-03-59.

❑ «Масквіч-412» 1983 г.в., у 1997 капрамонт, (800 у.а.) у Клічаўскім раёне.
Тэл. 2-41-39, Ігар.

❑ дом з уч. 20 сотак у в. Касцюшкі Маладзечанскага раёна.
Тэл. у Маладзечне 3-18-02.

❑ цвікі, с/гаспадарч. тэхніка, газавыя пліты «Байгора».
Тэл. (8-017) 251-06-48.

❑ кватэра 1-пакаёвая ў цагляным доме, 2 паверх, у Гомелі.
Тэл. у Гомелі 50-68-63.

❑ вялікі дом у вёсцы (150 км ад Мінска). Тэл. у Мінску 262-14-56.

❑ дом у в. Альбінка Нясвіжскага раёна, уч. 21 сотка, г/пабудовы. Звяртацца: 222620, п. Біязавод Нясвіжскага раёна Мінскай вобласці, вул. Палявая, 8.

❑ дом з г/пабудовамі, уч. 30 сотак, сад, калодзеж у в. Сіманы Пастаўскага раёна, непадалёку рака, лес, (танна).
Тэл. 3-66-54.

❑ кабыла 2,5 года ў в. Старое Сяло.
Тэл у Мінскім раёне 92-77-69.

❑ «ВАЗ-2101» 1974 г. в., у добрым стане, танна.
Тэл. у Івацэвічах 2-25-02.

❑ з/ч да «ГАЗ-52» (рухавік, КПП, колы)
Тэл. (8-243) 5-28-34, увечары.

❑ «Масквіч-2140» 1980 г.в., у добрым стане, цана дагаворная.
Тэл. у Стаўбцоўскім раёне 3-83-08.

❑ новы зілаўскі кунг — 400 у.а.
Тэл. у Лагойску (8-274) 5-43-63 з 8 да 17, Галя.

❑ «Масквіч-412» 1990 г.в., стаянка ў гаражы, прабег 40 тыс. км, у выдатным стане (1800 у.а.), магчымы торг.
Тэл. у Вілейцы 5-36-63, пасля 17.

❑ даільная ўстаноўка б/к, у выдатным стане.
Тэл. у Навагрудку 7-31-13.

❑ дом з г/пабудовамі ў в. Сазаны Смаргонскага раёна.
Тэл. 9-31-23 пасля 17.

❑ дачны ўчастак 9 сотак, прыватызаваны, вада, святло, у лагойскім накірунку.
Тэл. у Мінску 260-70-60.

❑ дом у в. Атрубак, 35 сотак агарод, сад (5 км ад Плешчаніц).
Тэл. 258-57-45.

❑ швейная машына «Чайка» з электрапрыводам, новая; каляска прагулачная «Трость» (б/к).
Тэл. у Мінску 253-51-56.

❑ дом з г/пабудовамі, уч. 15 сотак, сад, калодзеж у в. Ужа Вілейскага раёна, лес, рака.
Тэл. (8-271) 4-46-55, пасля 18.

❑ «Масквіч-412» 1980 г.в. у добрым стане.
Тэл. у Мядзельскім раёне 5-83-10 у рабочы час.

❑ дом добраўпарадкаваны ў Вілейцы.
Тэл. 5-33-04.

❑ дом, уч. 10 сотак, гараж, склеп, сад, вада, у Бялынічах.
Тэл. 2-15-59.

❑ «Масквіч-412» 1992 г.в. у выдатным стане.
Тэл. (8-293) 9-45-17.

❑ хутар з мноствам г/пабудоў, уч. 45 сотак, калодзеж, сад, побач лес.
Тэл. у г. Глыбокае 2-35-66 (рабочы).

❑ дом з г/пабудовамі, сад у в. Мольнічы Навагрудскага раёна.
Тэл.: (8-01561) 9-32-81, 9-32-51.

❑ прадаю або мяняю дом з усімі выгодамі і з г/пабудовамі на 3-пакаёвую кватэру ў Лідзе, Гродне ці Мінску.
Тэл. у Лідзе 2-86-05, у Шчучыне — 2-52-67.

## РОЗНАЕ

● куплю трактар МТЗ, Т-25 (б/к).
Тэл. (8-017) 258-34-64.

● мяняю цагляны дом у в. Грэск Слуцкага раёна (сад, г/пабудовы, тэлефон) на 2- ці 1,5-пакаёвую кватэру ў Мінску.
Тэл. у Грэску 9-03-92 пасля 18.

● куплю трактар МТЗ. Т-16,- 25, -40 (б/к).
Тэл. (8-017) 251-06-48.

● куплю жоўцевыя камяні кароў, (дорага).
Тэл. у Смаргоні 3-26-78.

● куплю старыя фотаапараты, аб'ектывы, значкі.
Тэл. 253-24-41.

● шліфоўка і лакіроўка паркетных, дашчаных падлог са зняццем старой фарбы (г. М. Горка).
Тэл. (8-213) 5-04-12.

● мяняю дом у вёсцы Вілейскага раёна і а/м «Форд-Эскорт» на 2-пакаёвую кватэру.
Тэл. у Вілейскім раёне 4-23-44, Алег.

● шукаю сур'ёзную работу на даму.
Звяртацца: 211030, г. Орша, вул. Пушкіна, д. 4, кв. 25, Аляксандр.

● мяняю дом з г/пабудовамі ў Верхнядзвінскім раёне на дом ці кватэру ў Баравусе, Полацку.
Тэл. (8-251) 2-68-53.

● сям'я шукае працу па с/гаспадарчых спецыяльнасцях (ветэрынарыя і аграномія) у Гродзенскім раёне.
Тэл. (8-017-93) 32-3-54.

● куплю трактар МТЗ, можна няспраўны.
Тэл. (8-262) 9-04-15.

● мяняю гараж у г. Гомелі на гараж у Мінску, або прадам.
Тэл. (8-017) 237-40-37.

● мяняю 4-пакаёвую кватэру ў г. Касцюковічы на кватэру ў Гомелі ці абласных цэнтрах Беларусі, або прадам.
Тэл. у Добрушы 3-25-78.

● мяняю 1-пакаёвую кватэру ў г. Джанкой (Крым) на Гомель, Мінск ці прадам.
Тэл. у Гомелі (8-0232) 48-94-78.

● куплю Т-25 у рабочым стане.
Тэл. 8(02357) 3-22-63.

● куплю кармавыя буракі ў Стаўбцоўскім раёне.
Тэл. (8-217) 5-87-92.

● куплю капалку аднарадную.
Тэл. (8-293) 9-45-17.

**Даведкі аб размяшчэнні рэкламы ў «ЗВЯЗДЗЕ»**
**Тэл. 232-31-98**
**Кошт прыватных платных аб'яў і віншаванняў — 60 тыс. руб. Аплата на р/р 3012210270016 у КБ «Белбізнесбанк» у г. Мінску код 739.**

## АСАБІСТАЕ ЖЫЦЦЁ

**Аб. 610**. Пазнаёмлюся з прывабнай, добрай жанчынай з мэтай стварэння сям'і. Аб сабе: Аляксандр, 36 гадоў, 174/68. Адкажу на ўсе лісты.

**Аб. 611.** Пазнаёмлюся з мужчынам да 45 гадоў для сур'ёзных адносінаў. Аб сабе: 35/162, прыемнай знешнасці, адукацыя вышэйшая, згодная на пераезд.

**Аб. 612.** Пазнаёмлюся з жанчынай да 42 гадоў для стварэння сям'і. Аб сабе: 42/170, разведзены, жыву ў сельскай мясцовасці з бацькамі (Магілёўская вобл.).

**Аб. 613**. Ірына, 25/168, Скарпіён, пазнаёміцца з надзейным, прыстойным мужчынам да 35 гадоў. Пажадана фота.

**Аб. 614**. Людміла, 21/170. Казярог, пазнаёмлюся з добрым інтэлігентным мужчынам да 30 гадоў без шкодных звычак. Пажадана фота, якое абяцаю вярнуць.

**Аб. 615**. Мужчына, 45/176, інвалід 2 групы, шукае жанчыну для стварэння сям'і, згодную на пераезд у вёску (Стаўбцоўскі раён).

**Аб. 616**. Пазнаёмлюся з мужчынам 43—45 гадоў без шкодных звычак для стварэння сям'і. Аб сабе: 43/167, Марыя, з месцаў зняволення не пісаць.

**Аб. 617**. Адзінокая жанчына прыемнай знешнасці, сярэдняй паўнаты, характар лагодны, працавітая, пазнаёміцца з мужчынам да 65 гадоў без шкодных звычак. Згодная на пераезд.

**Аб. 618**. Прывабная жанчына без ш/з, 27/160/52, пазнаёміцца з мужчынам без ш/з да 36 гадоў для стварэння сям'і (Віцебская вобласць).

***P.S****. Паважаныя чытачы! Для атрымання адраса абанента прысылайце канверт са сваім адрасам.*

## Сыравіна чужая — касметыка наша

**Айчынныя вытворцы касметыкі ўсур'ёз «узяліся» за беларускіх жанчын.**

По меркаванню галоўнага тэхнолага фірмы «Белкасмекс» Алега Выглазава, солі, што здабываюцца на Беларусі ў Салігорску, нічым не горшыя за рэчывы з Мёртвага мора. А таму да лета на прадпрыемстве пачне дзейнічаць новая лінія па вытворчасці цудадзейных сродкаў.

А неўзабаве беларускія прыгажуні змогуць набываць прэпараты, што запаруджваюць працэсы старэння, якія на 100 працэнтаў складаюцца з натуральных кампанентаў.

Фірма «Белкасмекс» вырабляе 46 відаў прадукцыі, 60 працэнтаў якой рэалізуецца на беларускім рынку. Хоць попыт прыгажунь у рэспубліцы задавальняецца толькі на 20 працэнтаў, вытворцы павінны прадаваць частку прадукцыі ў Расіі, Казахстане, каб мець валюту для закупкі высакаякаснай натуральнай сыравіны за мяжой. У вытворчасці касметыкі, на жаль, можна выкарыстоўваць хіба што сваю ваду.

**Жанна КАТЛЯРОВА.**

## Стандартны «МАЗ» — экалагічна чысты

**Сертыфікат адпаведнасці міжнародным стандартам гэтымі днямі атрымаюць вытворцы аўтобуса маркі «МАЗ».**

Тым самым беларусы практычна выключаюць магчымасць канкурэнцыі з боку замежных вытворцаў на рынку рэспублікі. Па словах дырэктара аўтобуснай вытворчасці Мінскага аўтазавода Генадзя Сінягоўскага, МАЗ вырабляе машыны экалагічна чыстыя і бяспечныя. Кошт аднаго аўтобуса на сённяшні дзень складае 105—110 тысяч долараў ЗША (напачатку абыходзіўся пакупнікам у 130 тысяч долараў). Зніжэнне кошту тэхнікі дасягнута за кошт змяншэння колькасці камплектуючых замежнай вытворчасці да 7—10 працэнтаў. У ліку замежных вузлоў, як вядома, і рухавік. Але работы над стварэннем якаснага рухавіка на Мінскім маторным заводзе вядуцца вельмі сур'ёзныя. Як адзначыў Генадзь Сінягоўскі, станоўчыя перспектывы відавочныя, і ўжо ў гэтым годзе аўтобусабудаўнікі чакаюць ад земляк оў-партнёраў партыю рухавікоў, якія будуць на парадак лепшыя за першыя распрацоўкі.

**Жанна КАТЛЯРОВА.**

## Беларусь на гэты раз наперадзе амаль Еўропы ўсёй

**На постсавецкай прасторы выразнае крымінальнае адценне набыў рынак нерухомасці. На Беларусі з'явілася новая рэальная процівага магчымаму пашырэнню гэтага працэсу.**

Пастановай Дзяржстандарта Рэспублікі Беларусь № 3 ад 5 лютага 1998 г. зацверджаны і ўведзены ў дзеянне дзяржаўны стандарт «Паслугі рыэлтарскія. Агульныя патрабаванні». Распрацоўшчык і ініцыятар прыняцця гэтага дакумента — Беларуская асацыяцыя «Нерухомасць». Безумоўна, уся работа выканана на грамадскіх пачатках, без дзяржаўнага ці міжнароднага фінансавання. Падобнага нарматыўнага дакумента, які рэгулюе працэдуру аказання паслуг у сферы нерухомасці, няма ні ў Расіі, ні ва Украіне, ні нават у краінах Усходняй Еўропы. Стандарт дасць магчымасць павысіць якасць абслугоўвання спажыўцоў рыэлтарскіх паслуг, а таксама паўплывае на давер насельніцтва да агенцтваў нерухомасці. Адпаведна павялічыцца інвестыцыйная актыўнасць, павялічацца паступленні падаткаў у бюджэт ад рыэлтарскай дзейнасці.

Мяркуецца, што дзяржаўная сертыфікацыя можа пачацца ўжо з сёлетняга сакавіка. Такім чынам, зусім хутка нашы грамадзяне, купляючы ці прадаючы жыллё і звяртаючыся ў агенцтва нерухомасці, змогуць запатрабаваць прад'явіць дзяржаўны сертыфікат якасці.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

...І, відаць, не згасла канчаткова ў душы фермераў надзея на лепшую будучыню, паступовы выхад на ўзровень рэнтабельнасці гаспадарак «старых» федэральных зямель. Аднак сёння ў вяскоўцаў «новых зямель» ужо няма ілюзій наконт таго, што шлях да гэтай мэты будзе хуткім і нескладаным. Адсюль і цалкам зразумелая настальгія ў немалой часткі сельскага насельніцтва па былых часах.

# «УСЯ СПРАВА Ў КАЎБАСЕ»

**ТАК ЗВЫЧАЙНА гавораць немцы, калі яны трапляюць у цяжкае становішча і абставіны вымушаюць весці жорсткую барацьбу за выжыванне. Па-нашаму кажучы, ці пан ці прапаў. Прыказку пра каўбасу сёння часта ўзгадваюць вяскоўцы былой ГДР. Пра нялёгкія выпрабаванні адной з новых фермерскіх гаспадарак — рэпартаж нашага спецыяльнага карэспандэнта.**

Шчыра кажучы, у невялічкае мястэчка Паарэн зямлі Брандэнбург, да якога ад Берліна прыкладна 40 хвілін язды на аўтобусе, я ехаў без асаблівага энтузіязму. Візіт гэты быў загадзя спланаваны ведамствам друку і інфармацыі ФРГ для вялікай групы замежных журналістаў. І я ўспрымаў яго чамусьці выключна як рэкламна-прапагандысцкую паездку ў своеасаблівую нямецкую «пацёмкінскую» вёску, закліканую прадэманстраваць значныя дасягненні рыначных пераўтварэнняў на зямлі былой ГДР. Аднак на самай справе ўсё аказалася інакш

«Агра Глін гмбх» — тыповая фермерская гаспадарка, якая ўзнікла на базе былога ГДРаўскага кааператыва, знешне не нагадвала квітнеючае «ранча». Жывёлагадоўчыя памяшканні мала чым адрозніваліся ад кароўнікаў і свінарнікаў нашых калгасаў сярэдняй рукі на чале з ашчадным і патрабавальным старшынёй. Можа, хіба дарогі да фермаў у Паарэне лепшыя ды больш парадку вакол вытворчых збудаванняў. А так істотнай розніцы я не ўбачыў.

Не адчуў я яе і ў настроях людзей. Як і беларускія, новыя нямецкія фермеры, калі меркаваць па працяглай гутарцы з панам Фольгартам, менеджэрам «Агра Глін гмбх», моцна нездаволеныя жыццём, слаба вераць у светлую будучыню і ўсе сілы і сродкі трацяць на тое, каб нейкім чынам не збанкруціцца.

Магчыма, у той дзень пан Фольгарт устаў не з той нагі, але яго словы і думкі поўніліся песімізмам і глыбокім расчараваннем. Вельмі цяжка дасягнуць рэнтабельнасці, гаварыў ён. Напрыклад, малако аптовым пакупнікам яны вымушаны прадаваць па цане сабекошту: 62 пфенігі за літр. У магазіне літр малака ўжо каштуе больш маркі. Фермеры паспрабавалі трохі павысіць адпускную цану, але аптавікі паставілі ультыматум — ні пфеніга больш, інакш яны ўвогуле адмаўляюцца набываць малако. І фермеры здаліся.

А куды дзенешся? У Германіі без пасрэднікаў напрамую ў магазіны, асабліва ў вялікія супермаркеты, не ўціснешся. Там усё, як кажуць, схоплена вытворцамі прадуктаў харчавання са «старых» зямель. Таму, каб нейкім чынам даць новым фермерам самастойна зарабіць, для іх пачалі па выхадных на ўскраінах вялікіх гарадоў і ў цэнтрах сярэдніх і малых населеных пунктаў арганізоўваць сельскагаспадарчыя кірмашы. Гараджанам яны прыйшліся даспадобы — прадукты свежыя і больш танныя, чым у магазіне.

Рэнтабельнай з'яўляецца вытворчасць збожжа. Праўда, пры ўмове, што ўдаецца сабраць не менш як 40 цэнтнераў з гектара. Дарэчы, сярэдняя ўраджайнасць у зямлі Брандэнбург у 1996 годзе (больш свежых даных тады не было) склала 43,8 цэнтнера. Але, каб дасягнуць гэтага ўзроўню, трэба добра папрацаваць з зямелькай, шмат укласці ў яе сіл і сродкаў.

З апошнімі ў новых фермераў пастаянная праблема. Не абмінула яна і «Агра Глін гмбх». Яго арганізавалі некалькі гадоў таму тры гаспадаркі, якія аб'ядналі землі, пабудовы, тэхніку і г. д. Самі кіраваць вытворчым працэсам у новых складаных умовах, відаць, не рызыкнулі, а таму нанялі вопытнага менеджэра пана Фольгарта. У свой час ён скончыў вышэйшую навучальную ўстанову жывёлагадоўчага накірунку.

Асноўны зямельны надзел гаспадарка арандуе разам з памяшканнямі, якія былі пабудаваны ў сярэдзіне—канцы 60-х гадоў. Нешта грунтоўна перарабіць тут нельга. Для гэтага трэба выкупіць зямлю ва ўласнасць. А яна ў Германіі каштуе дорага — да 10 тысяч марак за гектар. Летась, каб неяк фінансава забяспечыць хоць бы першачарговыя патрэбы, прадалі 86 гектараў. Бо цэны на жывёлагадоўчую прадукцыю ў цэлым упалі напалову, а па асобных яе відах — аж на 80 працэнтаў!

Таму сёння шаноўныя фермеры і іх менеджэр з Паарэна ўпарта думаюць над павышэннем рэнтабельнасці. Праўда, нейкіх свежых і радыкальных рашэнняў, як паказала размова з панам Фольгартам, у іх галовах не выспявае. Ён усё больш схіляецца да неабходнасці скараціць колькасць наёмных сельгасрабочых з 8 да 5. Кожнаму з іх даводзіцца плаціць 12—15 марак у гадзіну.

Дамоклавым мячом вісяць над гаспадаркамі значныя пазыкі, якія паарэнскія фермеры ўзялі яшчэ пры рэжыме Хонэкера. Насуперак усім спадзяванням, спісваць іх, відаць, не збіраюцца, але і вяртаць пакуль не патрабуюць. Улады разумеюць, што тады прыйдзе канец многім новым фермерам. А гэта выкліча рост і без таго немалога беспрацоўя ва ўсходніх землях і нездаволенасць сельскага насельніцтва.

Самае сумнае, што пан Фольгарт не бачыць надзейнай для сябе перспектывы на будучыню і ўвогуле расчараваўся ў хуткім станаўленні фермерства ў былой ГДР. Ён прызнаўся, што цяпер жыццё на вёсцы больш цяжкае, чым 10—15 гадоў таму. І, на сённяшні розум, ён бы ўжо не пайшоў кіраваць фермай, лепш знайшоў бы працу ў горадзе. Прывёў прыклад. Нядаўна яго сваякі, якія маюць ладны надзел зямлі, сёйтой інвентар, прапанавалі яму ўвайсці ў справу і разам стварыць гаспадарку. Пан Фольгарт адмовіўся, бо ўжо наеўся фермерскага хлеба.

— Працаваць на зямлі было прасцей пры ўмове падтрымкі звонку. Чаго, на жаль, няма. Дзяржава шмат абяцае, але мала што робіць, — гаворыць менеджэр.

Сялянскі саюз чамусьці больш заняты палітычнай дзейнасцю, асабліва ў час выбараў, і арганізацыяй мерапрыемстваў па павышэнню кваліфікацыі і абмену вопытам, якія, на погляд пана Фольгарта, бескарысныя ў сваёй большасці. Напрыклад, узаемны абмен візітамі з фермерамі амерыканскага штата Алабама яго раздражняе і абурае непатрэбнай раскошай і занадта насычанай турызмам праграмай: пяцізоркавыя гатэлі, шыкоўныя вячэры і г. д.

Хіба гэта сёння патрэбна новым фермерам, пытаецца ён.

Аднак выходзіць з Сялянскага саюза пан Фольгарт і яго гаспадаркі пакуль не збіраюцца. Значыць, ёсць сэнс быць у яго саставе.

І, відаць, не згасла канчаткова ў душы фермераў надзея на лепшую будучыню, паступовы выхад на ўзровень рэнтабельнасці гаспадарак «старых» федэральных зямель. Аднак сёння ў вяскоўцаў «новых зямель» ужо няма ілюзій наконт таго, што шлях да гэтай мэты будзе хуткім і нескладаным. Адсюль і цалкам зразумелая настальгія ў немалой часткі сельскага насельніцтва па былых часах.

Не адно дзесяцігоддзе паспяховае (як нам тады не без падстаў усім здавалася) развіццё сельскай гаспадаркі Германскай Дэмакратычнай Рэспублікі служыла ўзорам для нашага калгаснага сялянства і прапагандай бясспрэчных дасягненняў усёй сістэмы сацыялізму ў аграрна-прамысловым сектары. Але пасля аб'яднання Германіі сельскія кааператывы «новых» зямель не вытрымалі канкурэнцыі заходніх фермераў і трапілі ў надзвычай складаную сітуацыю.

Каб выправіць яе, федэральны ўрад накіраваў шматмільярдныя сумы на рэструктурызацыю, пераабсталяванне і проста падтрыманне вёскі далучанай ГДР. Велізарныя субсідыі дапамаглі ў той ці іншай ступені зняць сацыяльнае напружанне, але не вырашылі пакуль злабадзённых праблем: росту беспрацоўя на вёсцы, адток моладзі ў горад у пошуках лепшай долі і г. д.

Таму папулярная прыказка пра каўбасу сама прыходзіць у галаву новым фермерам.

**Леанід ЛАХМАНЕНКА.**

*САЦЫЯЛОГІЯ*

# ГРАМАДСКАЯ ДУМКА СХІЛЬНАЯ МЯНЯЦЦА

**У 1990 г. у жыцці сусветнага супольніцтва адбылася значная падзея, якая, на жаль, засталася малазаўважнай у інфармацыйнай прасторы былога Савецкага Саюза. Прызнаўшы, што мэтай дзейнасці нацыянальных эканомік павінен быць не прыбытак, а задавальненне надзённых чалавечых патрэбнасцяў, ААН прыняла новы асноўны індыкатар грамадскага прагрэсу — індэкс чалавечага развіцця (ІЧР). Гэты паказчык арганічна ўключае ў сябе даныя аб сярэдняй працягласці жыцця, адукацыйным узроўні чалавека і яго матэрыяльным дастатку. Тады як ранейшы — шырокавядомы паказчык прыросту ВУП (валавога ўнутранага прадукту) на душу насельніцтва — атаясамліваў сінонім любога капіталізму — прыбытак, які мог атрымлівацца цаной ушчамлення асноўных правоў чалавека і разбурэння асяроддзя яго пражывання. У тым ліку і такога права, як права на само чалавечае жыццё.**

Гэта падзея адбылася ў сувязі з тым, што ў 80—90-х гадах паявіліся новыя эканамічныя тэорыі, якія пацвярджалі той факт, што эканамічны рост і справядлівасць не абавязкова павінны быць узаемавыключальнымі мэтамі. Эканоміка існуе для людзей, а не людзі для эканомікі!

Эканамічны рост азначае расшырэнне матэрыяльнай базы для задавальнення патрэб чалавека. Аднак ступень задавальнення гэтых патрэб залежыць ад размеркавання рэсурсаў сярод насельніцтва і іх выкарыстання, а таксама ад размеркавання магчымасцяў, асабліва ў галіне працаўладкавання. Сувязь паміж эканамічным ростам і развіццём чалавечага патэнцыялу не з'яўляецца аўтаматычнай. У той жа час яе можна ўмацаваць разумнымі мерамі ў галіне палітыкі.

Існуе і важная зваротная сувязь. Развіццё чалавечага патэнцыялу патрабуе, сярод іншага, значных капіталаўкладанняў у адукацыю, ахову здароўя і харчаванне. У выніку фарміруецца больш здаровае і адукаванае насельніцтва, здольнае займацца больш эканамічна прадукцыйнай працай.

На практыцы, у цяперашнім жыцці Рэспублікі Беларусь асабліва работнікі бюджэтнай сферы (аховы здароўя, навукі, культуры і адукацыі) зведваюць шэраг праблем і цяжкасцяў. Гэтую групу насельніцтва ў значнай меры хвалююць як эканамічныя праблемы, звязаныя з цяжкім матэрыяльным становішчам, пастаянным ростам цэн, дрэннымі жыллёвымі ўмовамі, так і нематэрыяльныя праблемы духоўнага жыцця. Паводле даных сацыялагічных даследаванняў Інстытута сацыяльна-палітычных даследаванняў пры Адміністрацыі Прэзідэнта РБ (ІСПД), 68,5 працэнта рэспандэнтаў гэтай сацыяльнай групы адзначылі праблему росту цэн як адну з найбольш хвалюючых; 46 працэнтаў работнікаў указанай сферы непакоіць жыллёвая праблема. Высокі ўзровень трывогі выклікаюць рост злачыннасці (51,2 працэнта), а таксама нізкі ўзровень культуры насельніцтва (48 працэнтаў). Указаныя праблемы негатыўна ўплываюць на пераважальныя сацыяльныя настроі гэтай групы грамадства, што ў цэлым негатыўна ўплывае на развіццё чалавечага патэнцыялу.

Галоўная мэта сацыяльнай палітыкі дзяржавы на сучасным этапе — стварэнне для кожнага працаздольнага грамадзяніна ўмоў, якія б дазвалялі яму сваёй працай і прадпрымальнасцю забяспечыць уласны дабрабыт і дабрабыт сям'і пры ўзмацненні адраснай сацыяльнай падтрымкі з боку дзяржавы слаба абароненых груп насельніцтва. У перабудовачны перыяд адбыліся істотныя змены ў структуры грашовых даходаў насельніцтва. Доля аплаты працы служачых у агульнай суме грашовых даходаў зменшылася з 73 працэнтаў у 1990 годзе да 50 працэнтаў у 1996-м. Сярэднямесячная заработная плата служачых у 1996 годзе (тыс. руб.) склала: апарат органаў дзяржкіравання — 1638,6, навука і навуковае абслугоўванне — 1373,8, адукацыя — 1015,8, ахова здароўя — 1117,9, культура і мастацтва — 896,9 і 856,0 адпаведна.

Прыметнай стала ў апошні час тэндэнцыя ўзмацнення працэсаў сацыяльнага расслаення грамадства, павелічэння разрыву ў даходах беднай і высокааплатнай частак насельніцтва, узмацненне дыферэнцыяцыі даходаў розных прафесіянальных груп і галін народнай гаспадаркі, розных катэгорый людзей. Экспертныя ацэнкі сведчаць аб 5-разовым разрыве у даходах верхняй і ніжняй 10-працэнтнай часткі насельніцтва (паводле даных абследавання за 1996 год). Тады значнае перавышэнне над сярэдняй заработнай платай па народнай гаспадарцы па-ранейшаму мелі работнікі банкаў, а таксама органаў кіравання.

Знізіліся ўзровень і якасць жыцця насельніцтва. Узнікла праблема беднасці, якая з'яўляецца новай для рэспублікі. Цяпер беднасць у рэспубліцы вызначаецца велічынёй сукупнага даходу на ўзроўні і ніжэй за 60-працэнтны мінімальны спажывецкі бюджэт. Удзельная вага насельніцтва, якое жыве ў беднасці, павялічылася да 1995 года ў 8 разоў і складае цяпер больш як 40 працэнтаў. Даныя сведчаць аб тым, што 4/5 насельніцтва рэспублікі збяднелі практычна ва ўсіх тыпах паселішчаў. Асабліва ў цяжкім стане знаходзяцца сем'і, якія маюць дзяцей. Да асноўных катэгорый насельніцтва з высокай верагоднасцю пападання ў разрад бедных адносяцца: адзінокія, непрацуючыя, беспрацоўныя ў саставе сем'яў, сем'і, якія маюць дзяцей.

У гэтай сітуацыі найлепшым і самым эфектыўным інструментам супраць беднасці з'яўляецца палітыка, накіраваная на павышэнне даходаў. Гэта палітыка павінна быць у абавязковым парадку вынікам эканамічнага росту — павышэння эфектыўнасці вытворчасці, а не пераразмеркавання. Рост аплаты працы ў бліжэйшыя гады павінен апярэджваць рост грашовых даходаў прыкладна на 5—10 працэнтаў, з тым каб да 2000 года павялічыць долю аплаты працы ў даходах прыкладна да 57 працэнтаў.

Важнай палітыка-ідэалагічнай каштоўнасцю з'яўляецца грамадская згода. Парушэнне яе — крыніца дэструктыўных змяненняў у грамадстве. Бачнымі праяўленнямі зніжэння згоды становяцца недавер да інстытутаў улады, сацыяльныя непарадкі, рост насілля, злачыннасць, амаральнасць і бездухоўнасць, парушэнне супрацоўніцтва з іншымі краінамі, падрыў міжнароднага аўтарытэту. Для фарміравання грамадства, у якім грамадская згода стане нормай жыцця, цяпер маюцца рэальныя прадпасылкі. Сусветны вопыт сведчыць аб тым, што калі давер да ўлады ў грамадстве зніжаецца да 20—25 працэнтаў, палітычная бяспека ацэньваецца як крытычная.

У забеспячэнні ўстойлівага чалавечага развіцця важную ролю адыгрываюць палітычныя партыі. Палітычная сістэма Беларусі абапіраецца на 36 партый, 5 грамадскіх рухаў і шэраг масавых арганізацый. У Беларусі ўжо больш як 7 гадоў праводзяць сацыялагічныя даследаванні, у ходзе якіх вызначаюць рэйтынг папулярнасці палітычных партый. У розных сацыяльных і ўзроставых груп ён не аднолькавы. Неабходна адзначыць, што за 1996 г. давер жыхароў краіны да многіх вядучых партый істотна зменшыўся. Значна павялічылася колькасць тых, хто не верыць ні адной палітычнай партыі. Аб многіх з іх людзі і ўвогуле не чулі. Такім чынам, у Беларусі ў наяўнасці крызіс шматпартыйнасці. Палітычны інстытут парламенцкіх партый на бліжэйшыя 5 гадоў спыніў у Беларусі сваё існаванне, а актыўна ўплываць на грамадства яны змогуць толькі тады, калі іх падтрымае народ. Толькі тады крызіс шматпартыйнасці ў рэспубліцы будзе пераадолены.

**Анатоль БАДУЛІН,**
**кандыдат гістарычных навук;**
**Барыс ШЭЛЯНГОЎСКІ,**
**кандыдат філасофскіх навук —супрацоўнікі Інстытута сацыяльна-палітычных даследаванняў пры Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь.**

*36,6°*

## ЗДЫМАЙЦЕ НА НОЧ ЗАРУЧАЛЬНЫ ПЯРСЦЁНАК!

...Кожная жанчына вельмі беражліва адносіцца да сваіх упрыгажэнняў. А даўным-даўно пярсцёнкі з'явіліся як характэрны знак або уладальніцкае кляймо. Самыя раннія ўпаміналіся ў старажытнаіндыйскім эпасе XI стагоддзя да н. э.

Старажытныя грэкі, хаваючы супляменніка, лічылі, што ў замагільным жыцці пярсцёнкі стануць духоўнымі путамі, і сачылі, каб на мёртвым іх не засталося. Душа ж, верылі яны, можа затрымацца нават у мезенцы і не мець спакою.

Цірольцы былі перакананыя, што жанчыне, якая павінна была радзіць, каб адхіліць дэманаў, ні пры якіх абставінах не трэба здымаць з пальца шлюбны пярсцёнак, інакш вядзьмаркі атрымаюць уладу над ёю. А ў скандынаваў пярсцёнак, які надзявалі з выпадку жалобы, з'яўляецца на самай справе амулетам і павінен засцерагаць чалавека ад любой шкоды, якую можа нанесці яму душа нябожчыка.

Сучасныя рамантычныя адносіны да пярсцёнкаў сфарміраваліся ў XVII—XIX стагоддзях. Тады і з'явіліся памятныя, жалобныя і шлюбныя пярсцёнкі.

Традыцыя насіць шлюбны пярсцёнак на безыменным пальцы прыйшла з берагоў Ніла. Старажытныя егіпцяне лічылі, што чацвёрты палец асаблівым нервам ці крываносным сасудам злучаны з сэрцам. Хрысціянства не стала абвяргаць гэта язычніцкае вераванне, узаконіла яго царкоўным рытуалам і боскім благаслаўленнем — выгравіраваным на пярсцёнку тэкстам.

У Еўропе шлюбны пярсцёнак пераходзіць у спадчыну з пакалення ў пакаленне — ад маці да старэйшай дачкі. Вузкі шлюбны пярсцёнак з брыльянтам прынята падносіць у дзень заручынаў, а пярсцёнак, што надзяваецца пры рэгістрацыі шлюбу, павінен усё ж быць у выглядзе няспыннага кола (навошта спакушаць злога духа, які імкнецца ўнесці разлад паміж мужам і жонкай?).

Адзначаючы сярэбранае вяселле — праз 25 гадоў, мужу і жонцы належыць побач з залатым шлюбным пярсцёнкам надзець сярэбраны.

Адно з новаўвядзенняў — пярсцёнак як знак разводу на безыменным пальцы або мезенцы левай рукі. Даволі бяскрыўдны звычай, калі толькі не збярэцца вельмі вялікая калекцыя такіх упрыгажэнняў, тады пальчыку прыйдзецца цяжкавата.

Між тым, на руках мноства адчувальных кропак, звязаных з унутранымі органамі. А яшчэ ў старажытным Кітаі спецыялісты акупунктуры ведалі кропкі на чацвёртым пальцы, які адказвае за работу наднырачнікаў, падстраўнікавай і малочнай залоз. Калі ўвесці іголкі ў пэўныя месцы на трэцім пальцы рукі, можна ўздзейнічаць на сасуды. А стымуляцыя кропак на другім пальцы ўплывае на работу нервовай сістэмы.

Даследаванні, праведзеныя нашымі сучаснікамі — спецыялістамі ў галіне ўсходняй медыцыны, паказалі: цесныя «абдымкі» пярсцёнка шкодныя, асабліва калі яго носяць не здымаючы. Шлюбны на безыменным пальцы можа правакаваць мастапатыю, захворванні палавых органаў і эндакрынных залоз. Пярсцёнак на сярэднім пальцы — атэрасклероз, гіпертанію, на ўказальным — астэахандроз і радыкуліт, пярсцёнак, які шчыльна сядзіць на мезенцы, — паталогію дванаццаціперснай кішкі. Таму ўрачы рэкамендуюць здымаць на ноч нават шлюбны пярсцёнак. А калі вы верыце магам, скарыстайце іхнюю параду: не хавайце пярсцёнкі з камянямі ад святла — няхай падзараджаюцца ад сонечных промняў і потым дораць сваю энергію вам.

Згодна з нядаўнім сацыялагічным апытаннем больш за 70 працэнтаў расійскіх жанчын мараць пра пярсцёнак з брыльянтам. Напэўна, не выпадкова.

Рыбакі вострава Хакайда з даўняга часу наносяць на рукі мудрагелістую татуіроўку. Наколка, імітуючы пярсцёнак на пальцах, праходзіць па пэўных капілярных лініях. Такая татуіроўка, на думку японцаў, гаючая. І на самай справе, рыбакі не атрымліваюць раздражнення ад салёнай вады і не пакутуюць ад прафесіянальных хвароб.

І нарэшце — вясёлы анекдот.

*Жонка пытаецца ў мужа, які збіраецца адзін на адпачынак да мора:*

*— А чаму ты не надзеў шлюбны пярсцёнак?*

*— Пярсцёнак у такую гарачыню?!*

**«Здоровье».**

*РЭПАРЦЁР АТРЫМАЎ ЗАДАННЕ...*

# ... зрабіць гравіроўку на памяць

**Напэўна, ніхто не будзе аспрэчваць таго, што дарыць і асабліва атрымліваць падарункі — прыемна. Прычым, калі падарунак зроблены дарагімі людзьмі і з любоўю, бадай, зусім не важна, колькі ён каштуе — справа ж не ў грашах, а ў праяўленай увазе. І праз гады такі падарунак ці сувенір будзе аб нечым ці аб некім нагадваць. Ну а калі яшчэ на ім надпіс адпаведны зрабіць... Дарэчы, гэта не так проста, як падаецца на першы погляд. Я маю на ўвазе не тэхнічнае выкананне, а, як кажуць, палёт фантазіі. Прыдумаць арыгінальны надпіс ды яшчэ да адпаведнага падарунка — справа не з лёгкіх. Аб гэтым больш падрабязна пагадзілася расказаць адна з мінскіх гравіроўшчыц — Людміла (сваё прозвішча і месца працы яна чамусьці катэгарычна забараніла ўказваць у газеце).**

Людміла працуе гравіроўшчыцай ужо тры гады, раней была мастаком, але пасля рэфарміравання колішняга месца працы вымушана была змяніць прафесію. Сённяшняй сваёй працай яна задаволена.

— Праўда, раней да нашых паслуг звярталіся куды часцей, — гаворыць Людміла, — а зараз у людзей няма грошай, таму кліентаў значна паменела. Раней часцей рабілі гравіроўку проста да дня нараджэння, цяпер жа выключна толькі на юбілеі.

Пераважная большасць цяперашніх кліентаў Людмілы — арганізацыі, установы, фірмы. Як правіла, звяртаюцца напярэдадні юбілею калегі, калі хочуць зрабіць адпаведны немудрагелісты надпіс на падарунку. Падчас нашай размовы, напрыклад, з'явіўся чалавек, які пастараецца зрабіць надпіс на падарунак да «60-годдзя таварыша ад калег-вадзіцеляў». Нярэдкія ў Людмілы заказы з сілавых ведамстваў, асабліва напярэдадні прафесійных святаў, калі здараецца, скажам, заказ на гравіроўку ручных гадзіннікаў для супрацоўнікаў гэтых ведамстваў. Кліенты для Людмілы — яе хлеб, бо заробак цалкам залежыць ад выручкі. Сорак працэнтаў (крыху больш мільёна рублёў у месяц) і складаюць штомесячны заробак жанчыны.

— Што, дорага каштуе зрабіць гравіроўку?

— Наадварот, у іншых цана значна большая, праўда, і ў нас абяцаюць крыху падняць кошт паслуг.

— Колькі часу патрэбна на выкананне аднаго заказу і колькі ён у сярэднім каштуе?

— Усё залежыць ад матэрыялу, ад колькасці слоў у надпісе, шрыфту. Сярэдніх памераў шыльдачка адымае 30—40 хвілін, зрэдку — да гадзіны. Пакуль размеціш, падрыхтуеш, потым патрэбен час, каб клей добра «прыхапіў»... Каштуе ж гэта 60—80 тысяч рублёў.

Многа гэта ці мала, сказаць цяжка. Напэўна, усё залежыць ад кашалька канкрэтнага кліента. Па словах Людмілы, бывае, у адзін дзень кліенты ідуць і ідуць, а бывае — няма ніводнага.

— А што найчасцей дораць? І якія самыя арыгінальныя падарункі вам даявлося пабачыць?

— Ды рознае. А самыя незвычайныя падарункі, на якіх давялося рабіць гравіроўку, — велізарны цвік і рыдлёўка. За даўнасцю часу самых надпісаў ужо не памятаю, але рыдлёўку паднеслі свайму калегу таварышы-геолагі. Студэнты вельмі часта любяць заказваць для сябе невялічкія шыльдачкі з уласнай групай крыві.

— Ну а піўшчы што?

— Здараецца, і гравіраваць такое сорамна... Зрэшты, паглядзіце самі. Захоўваю, скажам так, аўтарскія арыгіналы.

З дазволу Людмілы вывучаю не даволі вялікую калекцыю — на кавалачках рознай паперы, з рознымі почыркамі, пажаданнямі з той ці іншай нагоды. Для зручнасці пачынаю ўсе гэтыя паперкі сістэматызаваць. Сюды — стандартныя і банальныя на фоне іншых віншаванні з днём нараджэння, юбілеямі: сыну ад маці, таварышу ад калег. Хаця і сярод іх сустракаюцца «перлы». Напрыклад, такія філасофскія (для захавання каларыту пакінем мову арыгінала): «А кони все скачут и скачут...» (відаць, для чалавека, які дасягнуў пэўнага ўзросту), ці больш канкрэтна: «45 — это только начало!» Віншаванні маладзі, якая, напэўна, яшчэ не зведала жыццёвых расчараванняў, поўныя надзей і юнацкіх летуценняў. «Тот, который любимый...», «Полная чаша на счастье наше», «Горячий чаек, растает ледок!» (відаць, два апошнія надпісы былі зроблены на кубачках), «У нас все получится», «Время ничто, пока мы вместе», «Не теряй меня. Давай стариться вместе». А вось надпісы для гравіроўкі ўжо тых, хто зведаў у жыцці перашкоды, магчыма, здрады; але па-ранейшаму спадзяюцца і вераць у лепшае. «Боря! Не вини во всем женщин», «Пусть моя любовь и Бог хранят тебя повсюду», «Пей, Валера, сладкий чай и меня не забывай. Наливай скорее в кружку и зови свою подружку», «Пусть в ней даже цветы чужие напоминают обо мне» (на вазу). Затое тыя, хто вытрымаў выпрабаванні, цяпер смела віншуюць адзін аднаго, але не забываць адначасова і нагадаць, хто ў хаце гаспадар. «Как хочешь пей — помалу иль понемногу, но так, чтоб к дому не забыть дорогу», «Тамаре в день начала «30-летней войны» от Бориса, подписавшего контракт на весь срок ее ведения», «Героям общего ремонта», «За отвагу на семейном фронте», «На кухне я непобедим» (трэба меркаваць, у вясёлым). Калі ж адносіны не скончыліся шлюбам, не варта засмучацца, бо побач столькі сяброў-таварышаў, якія заўсёды пажадаюць шмат чаго добрага і нават запросяць: «Не меркни, Бахуса звезда! Из этой кружки пей до дна», «Ничто очень плохое и очень хорошее не длится очень долго», «Без друзей не наливай, не допив — не оставляй».

Гэтыя запісы можна чытаць і далей. Сустракаюцца сярод іх і вершы, шмат пажаданняў на розных замежных мовах (падазраю, інтымнага характару), ёсць віншаванні ў выглядзе прыпевак.

**Сяргей РАСОЛЬКА.**

*УСЁ ПРА ЎСЁ*

## Некалькі парад для захавання жыцця кветак

Абарвіце са сцябла ніжнія лісты, паколькі зеляніна ў вадзе садзейнічае развіццю і росту бактэрый.

Штодня мяняйце ваду ў вазе. Выкарыстоўвайце цёплую ваду, гэта аблегчыць сілкаванне кветак.

2-3 разы на тыдзень як мае быць мыйце вазу. У апошнюю прамываючую ваду пакладзіце крыху рэчыва, якое адбельвае.

Праз дзень падразайце сцяблінкі кветак на 2—2,5 см. Падразанне рабіце толькі пад вадой.

Прымяняйце ахову для кветак. Пакладзіце срэбную манету ў вазу з цюльпанамі, а ў вазу з ружамі — аспірын. Але лепш купіць у кветкавым магазіне спецыяльныя таблеткі.

Асцерагайцеся ставіць кветкі пад прамыя сонечныя промні. Не стаўце вазу на тэлевізар.

Выкарыстоўвайце «халоднае захоўванне». Калі вас няма дома, пакладзіце кветкі ў халадзільнік ці ў халадняватае цёмнае месца, але не на скразняк.

Трымайце кветкі далей ад спелай садавіны, паколькі яна выдзяляе газ — этылен.

## Музычная сцяжынка

У кітайскім горадзе Нанкімэ перад адкрытай эстраднай створана вельмі арыгінальная сцяжынка-лесвіца. Калі наведвальнікі ідуць па прыступках-клавішах, то чуюць прыемныя гукі, якія тая ўтварае.

## Трэці мозг чалавека

Нядаўна амерыканскія медыкі выявілі ў чалавека трэці мозг у дапаўненне да ўжо вядомых — галаўнога і спіннога.

Любы акцёр прызнаецца, што перад выхадам на сцэну ў яго смокча пад лыжачкай. Ды вы і самі адчувалі нярэдка такое перад экзаменам, калі ўладкоўваліся на работу ці ішлі па цёмнай бязлюднай вуліцы.

Прычым ад моцнага страху бывае так, што пачынаюцца і спазмы ў жываце. Чаму так атрымліваецца? Якая сувязь паміж нашымі нервамі і страўнікам?

Брушная нервовая сістэма размяшчаецца ў слаях тканкі, якая высцілае ўнутраныя сценкі страўніка, стрававода, тонкіх і тоўстых кішак. Яна ўяўляе сабой сетку нейронаў, што абменьваюцца паміж сабой сігналамі, і розных дапаможных клетак. Адным словам, будова яго прыкладна такая ж, як і галаўнога мозгу, толькі колькасць нейронаў тут значна меншая, яны не ўтвараюць паўшар'яў. Аднак мозг усё ж ёсць мозг: ён таксама здольны запамінаць інфармацыю, вучыцца на тым ці іншым вопыце, уздзейнічаць на нашы эмоцыі.

Зараз вывучэннем «знаходкі» займаецца спецыяльная галіна навукі — нейрагастраэнтэралогія, якая ўжо зрабіла нямала адкрыццяў. Напрыклад, даследчыкі з Лонданскага універсітэта лічаць, што брушны мозг дастаўся нам у спадчыну з тых часоў, калі прырода канструявала першыя зачаткі нервовай сістэмы.

Зараз устаноўлена, што ў брушным мозгу налічваецца не менш як 100 млн. нейронаў — больш, чым у спінным мозгу. І, такім чынам, магчымасцяў у яго таксама больш.

# ...наведаць студэнцкую сталоўку

**У студэнцкім асяроддзі жартуюць: «Студэнт можа быць галодным, але сытым — ніколі!» Між іншым, легендарнаму студэнцкаму апетыту знайсці фізіялагічнае тлумачэнне зусім няцяжка — здаровы малады арганізм патрабуе рэгулярнага паўнацэннага харчавання. Праўда, пры наведванні студэнцкіх сталовых можна засумнявацца, што студэнты ў нас сапраўды паўгалодныя: ну няма ў сталовых натоўпаў студэнтаў! Але ўласны вопыт колішняй студэнткі падказвае: шукаць іх трэба ў іншым месцы, бо вядома, што самы «дэмакратычны» (чытай «даступны») абед для студэнта — шклянка соку з булачкай. Падазраю, што менавіта са студэнцкіх гадоў у мяне засталася да гэтых прадуктаў непераадольная агіда. І яшчэ гастрыт...**

**Сёння праблему харчавання студэнтаў на дзяржаўным узроўні ніхто не ўзнімае: зразумела, не маючы сродкаў, аднымі размовамі справу з мёртвай кропкі не зрушыш. А пагаварыць у той ж час ёсць аб чым: супрацоўнікамі аддзела гігіены харчавання Мінскага гарадскога цэнтра гігіены і эпідэміялогіі па ўласнай ініцыятыве быў праведзены аналіз харчавання студэнтаў ВНУ сталіцы. З яго папярэднімі вынікамі і знаёмім нашых чытачоў.**

— Мы распрацавалі спецыяльную анкету, — расказвае загадчыца аддзела Надзея Астапава, — якая дазволіла скласці даволі аб'ектыўную карціну таго, як часта харчуюцца сённяшнія студэнты...

Прасочым, напрыклад, што трапляе на стол студэнтам Беларускай дзяржаўнай політэхнічнай акадэміі. Метадам «актыўнай анкеты» было ўстаноўлена, што 3 разы на дзень тут харчуюцца толькі 47,7 працэнта апытаных. 43,2 працэнта рэспандэнтаў харчуюцца дома, 56,2 працэнта — у інтэрнаце, а ў сталовых бывае менш за 1 працэнт навучэнцаў. Больш як 50 студэнтаў II курса прызналіся, што яны ўвогуле не абедаюць, 30 працэнтаў — што не снедаюць, а ў 79 працэнтаў анкетуемых ранішняе меню складаецца з чаю і бутэрброда. На пытанне анкеты, як часта вы ўжываеце ў ежу мяса, адказы вар'іруюцца ў залежнасці ад забяспечанасці тых ці іншых студэнтаў: «3 разы на дзень», «раз дзень», «адзін раз на тыдзень», «два разы на тыдзень», «калі ёсць у наяўнасці», «калі пашанцуе», «практычна ніколі», «дома і пасля вяртання з дому ад бацькоў». Няцяжка здагадацца, якія з адказаў належаць іншагароднім студэнтам. Высветлілася, што штодзень ужываюць мясныя прадукты толькі 58 працэнтаў, малочныя — 63, садавіну — 52, агародніну — 72 працэнты апытаных студэнтаў. Не хапае ў рацыёне рыбы. Затое мучныя кандытарскія вырабы і прысмакі, якія ніяк не адпавядаюць уяўленням аб здаровай ежы, кожны дзень ужываюць 70 працэнтаў навучэнцаў.

Прыкладна такая ж карціна назіраецца і ў БДУ. Сталовыя наведваюць 10 працэнтаў студэнтаў БДУ, 50 працэнтаў харчуюцца дома і 40 працэнтаў — у інтэрнаце.

У прынцыпе, харчаванне большасці мінскіх студэнтаў спецыялісты ацэньваюць як нерацыянальнае і незбалансаванае. У аснове выбару ежы і прадуктаў харчавання ляжыць галоўным чынам іх фінансавая даступнасць. Так, напрыклад, у 22 працэнтаў рэспандэнтаў БДЭУ вячэра складаецца з гарбаты і бутэрброду, а 8 працэнтаў увогуле не вячэраюць. Сустракаюцца ў анкетах і такія меню: «суп—чай—булачка», або «чай з варэннем». Таксама ў большасці студэнтаў інтэрвалы паміж прыёмам ежы складаюць 7—9 гадзін, а гэта азначае, што вялікую колькасць часу іх страўнікі займаюцца самаперапрацаваннем, у выніку чаго ім забяспечаны гастрыты, язвы... Заўважым, што 20 працэнтаў апытаных студэнтаў БДПА ужо маюць захворванні эндакрыннай сістэмы і страўнікава-кішачнага тракта. 200 студэнтаў БДЭУ знаходзяцца на ўліку ў паліклініцы з дыягназам «гастрыт» і «дысфункцыя падстраўнікавай залозы» і 50 — з язвенкай хваробай. У сярэднім на навучальнай установе з захворваннямі страўнікава-кішачнага тракта штогод звяртаецца 10—15 студэнтаў.

У той жа час, як сведчаць вынікі праверкі, у студэнцкіх сталовых на сённяшні дзень практычна адсутнічае дыетычнае харчаванне: дыетычныя стравы гатуюцца дзе-ндзе, у сталовых днём з агнём не знойдзеш адвараў лекавых траў, не задавальняе таксама і прадстаўленнасць у іх асартыменце натуральных сокаў і мінеральнай вады.

Што датычыцца арганізацыі працы студэнцкіх сталовых, то і тут ёсць цэлы шэраг «недахопаў». Многія з іх або не функцыянуюць па прызначэнню, або ўвогуле зачынены. Практычна ў кожнай навучальнай установы свае праблемы з харчаваннем студэнтаў: у медінстытуце навучальная база раскідана па ўсім горадзе, таму з-за транспартных няўручнасцей студэнты застаюцца без гарачых абедаў. Адсутнічае гарачае харчаванне і ў Мінскім дзяржаўным лінгвістычным універсітэце, бо ў двух камерцыйных буфетах «Оркіс» і «Закуток» асартымент страў прадстаўлены паўфабрыкатамі, чызбургерамі, 2-3 найменнямі салатаў, кандытарскімі вырабамі і напоямі.

Цікава даведацца, якое выйсце з праблемы, у якую ператварылася рантам звычайнае харчаванне, бачаць самі студэнты, якія трацяць на яго (як вынікае з анкет) 70—100 працэнтаў сваёй стыпендыі. Усе іх прапановы звернуты ў большасці сваёй да дзяржавы: «павысіць стыпендыю тым, хто пражывае ў інтэрнаце», «выплачваць студэнтам грошы на харчаванне», «знізіць цэны ў студэнцкіх сталовых», «знізіць для студэнтаў цэны на прадукты», «палепшыць якасць ежы ў сталовых» і інш. Некаторыя проста пішуць: «Хачу есці!» Мінскі гарадскі цэнтр гігіены і эпідэміялогіі ў сваю чаргу прапануе акрамя павелічэння стыпендый разгледзець адміністрацыям ВНУ магчымасць датацый на харчаванне студэнтам, якія пражываюць у інтэрнатах або стаяць на ўліку ў паліклініках. Але вырашаць будуць усё ж не яны...

**Надзея НІКАЛАЕВА.**

# ЯГУАРЧЫК

Дзіцяня ягуара, якога вы бачыце на здымку, нарадзілася ў Гродзенскім заапарку. На свет яно з'явілася і недаразвітае, паўжывое. Маці адмовілася яго карміць. Яно было асуджана.

Але здарылася так, што рабочая заапарка Ганна Аляксееўна Бугаёва вырашыла паспрабаваць выратаваць гэтую слабенькую істоту.

Прынесла дзіцяня дадому і пачала даглядаць — карміла яго з бутэлечкі праз соску цёплым малачком, варыла манную кашу, сагравала грэлкай, у падушках, ухутвала, насіла на руках. А яно, проста цуд, прыцікалася да яе сваім цельцам, лізала ёй рукі, твар, шчокі і глядзела даверлівымі вочкамі, лежачы на яе каленях.

Вось так яно падрастала, разумеючы, напэўна, што не дарэмна нарадзілася на свет. Неўзабаве ягуарчык ператварыўся ў гарэзу — бегаў, скакаў па кватэры, разам са сваёй выратавальніцай глядзеў тэлевізар, грыз і драпаў мэблю, неасцярожнымі рукамі скідваў са стала посуд, разбіваючы ўшчэнт. Гаспадыня не магла нарадавацца на яго і ўсё яму даравала — толькі б быў здаровы.

Калі дзіцяня падрасло, Ганна Аляксееўна на павадку выводзіла яго на прагулку. Усе, асабліва дзеці, былі ў захапленні пры сустрэчы з такой прыгожай, незвычайнай «кошачкай». І ніхто не мог утрымацца — усім хацелася пагладзіць незвычайнага звера.

Вось толькі сабакі, падціснуўшы хвасты, уцякалі ад незнаёмца. А ён нікога не баяўся.

Мінуў час. Вялікае кацяня ператваралася ўсё больш у звера, патрабуючы сырога мяса. Сцены кватэры яго не задавальнялі, а гульні з дзецьмі для апошніх станавіліся небяспечнымі. Кліч продкаў быў усё больш настойлівы. Калі Ганны Аляксееўны не было дома, ён нерваваўся, гучна роў, раскідваў усё ў кватэры.

І вось настаў час развітання. Ягуара аддалі ў Ліпецкі заапарк. За дзень да яго адпраўкі я зрабіў гэты здымак.



Трэба было бачыць развітанне. Ганна Аляксееўна разумела, што трымаць у доме звера небяспечна, але не магла ўтрымацца ад слёз.

Са слязьмі на вачах праводзілі свайго любімца і дзеці, якія, як заўсёды, прыйшлі з падарункамі.

**Уладзімір ГОФМАН. Фота аўтара.**



ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Савет Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь,
Палата прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь,
Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь

Галоўны рэдактар У. НАРКЕВІЧ.
Рэдакцыйная калегія: У. АНДРЫЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), І. БАРАНОЎСКІ, У. ГОЙТАН, В. ЖДАНКО, Л. ЛАХМАНЕНКА, М. МІХАЕВІЧ (першы намеснік галоўнага рэдактара), А. МЯСНІКОЎ, Л. РЫЖАНКОВА (намеснік галоўнага рэдактара), С. ШАЎЦОЎ.
Рэгістрацыйны нумар 1.

*НАШ АДРАС: 220013, гор. Мінск, вуліца Б. Хмяльніцкага, 10-а, рэдакцыя газеты «Звязда».
ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай — 68-29-19; намеснікаў галоўнага рэдактара — 32-44-12, 32-14-25, 32-35-05; аддзелаў: інфармацыйна-аналітычнага — 32-38-02, 68-28-14, 68-29-68, эканомікі — 32-31-21, 68-29-68, палітыкі — 68-27-57, 68-28-64, культуры — 68-29-42, 68-28-27, сацыяльных праблем — 68-28-69, пісьмаў — 68-27-47, маралі і права — 68-28-51, міжнацыянальных адносінаў — 68-27-40, 68-28-69, журналісцкіх расследаванняў — 68-28-38, 68-28-72, знешнеэканамічнай дзейнасці — 68-29-44; аглядальнікаў па праблемах: навукі і адукацыі — 68-28-31, экалогіі і ліквідацыі вынікаў Чарнобыля — 68-28-36; уласных карэспандэнтаў: у Гродне — 33-25-29, Гомелі — 53-13-92, Баранавічах — 7-26-02, Магілёве — 31-13-75, Паставах — 26-562; бухгалтэрыі — 32-22-03; даведкі па рэкламе і аб'явах — 32-04-52, 32-31-98. ФАКС: 68-27-79. E-mail: daily@zwyazda.belpak.minsk.by*



Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Мінск, праспект Ф. Скарыны, 79.
Тыраж 84.119. Індэкс 63850.
Зак. № 850.
Выходзіць 250 разоў на год.
Нумар падпісаны ў 20.15.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12